№ 17 (902) 6 мая 2015

www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

# Спекулянты на Перамозе



Васіль Быкаў прайшоў вайну ад Дняпра да Дуная. Быў паранены, цудам застаўся жывы. З яго выпуску выжылі 4 хлопцы з 80. Калі Быкаў напісаў праўду пра вайну ў сваіх раманах, у чым яго звінавацілі? Так, у «фальсіфікацыі гісторыі», «дыскрэдытацыі подзвігу савецкага народа». І хто вінавацiў? Усё тайнае робіцца яўным: розныя пацукі тылавыя, з ведамства Юрыя Андропава — Андропаў, дарэчы, сам на фронце не быў з прычыны слабога здароўя, арганізоўваў партызанскі рух з тылу. О так, яны то засталіся цэлыя — спекулянты на Перамозе.

Гэта іх ідэалагічныя нашчадкі цяпер пафасна вяшчаюць на тэлеканалах і плошчах. А вуліцы Быкава ў Мінску — няма. І званне Героя Беларусі носяць іншыя героі, не Быкаў.

Гэтыя нашчадкі — грудзі ў медалях — без ценi сораму крочаць у ветэранскіх калонах, хоць дзе, з кім яны ваявалі?

Як яны на сваіх «ток-шоу» напалі на прыбалтаў — вінаватых толькі ў тым, што яны адстойваюць сваю праўду пра тую вайну. Як яны цяпер нападаюць на Украіну, дзе перасталі ўжываць гэты прапагандысцкі тэрмін «Вялікая Айчынная вайна», а называюць яе проста Другой сусветнай. Як яны нападаюць на ўсіх, хто ў часе той вайны ваяваў не толькі супраць Гітлера, але адначасова і супраць Сталіна, другога ізверга.

Усе гэтыя георгіеўскія стужкі, якія так легкаверна і бяздумна чапляюць на машыны некаторыя нашы суграмадзяне, яны таксама не для памяці, яны для замацавання імперскага статусу Расіі — а значыць, і нашага буфернага, падпарадкаванага.

Словы Аляксандра Лукашэнкі з яго Паслання нацыянальнаму сходу: «Тая вайна каштавала нам мільёнаў жыццяў, і таму мы цвёрда ведаем: няма на Зямлі нічога даражэйшага за мір!» — правільныя. Але грош цана ўсяму нашаму святкаванню, калі ў нас з яго дапамогай замоўчваецца самая важная высновa. Беларусь у апошнюю вайну была чарговы раз выкарыстаная Імперыяй у якасці буфернай тэрыторыі, шчыта. Калі мы зноў будзем дазваляць выкарыстоўваць сябе ў якасці буфера, поля бою, калі мы забудзем наш нацыянальны інтарэс, то нас ізноў чакаюць нацыянальныя катастрофы, тут ізноў будзе выпаленая зямля, як у 1812 годзе, у 1915—1920 гадах і ў 1930—1945 гадах.

Маўчанне пра гэта — і ёсць самая страшная фальсіфікацыя гісторыі, за якую нам ці нашым унукам, не дай Божа, калісьці зноў прыйдзецца заплаціць страшную цану.

АЛЕСЬ КІРКЕВІЧ

## Падпішыся сам, падпішы дзядоў!

«Наша Ніва» без вас не выжыве.
А вы з «Нашай Нівай» будзеце мець у хаце ўсю праўдзівую інфармацыю.

**Як падпісацца — старонка 2.**

# 57 дзеячаў грамадства і культуры заклікалі стварыць Нацыянальны ўніверсітэт у дадатак да ЕГУ

### ЗАЯВА З НАГОДЫ АБРАННЯ НОВАГА РЭКТАРА ЕГУ

Хоць выбары рэктара ЕГУ абвешчаны завершанымі, з іх вынікамі пагадзіцца немагчыма: шматмесячны працэс быў абсалютна не празрысты, суправаджаўся скаргамі кандыдатаў і непрадказальнымі зменамі правілаў гульні. Кіраўніцтва ЕГУ дэманстратыўна праігнаравала думкі акадэмічнай і студэнцкай супольнасцяў, асацыяцыі выпускнікоў і беларускай грамадскасці.

Лёс універсітэта трапіў ў рукі чалавека, які не толькі ніколі не займаўся беларускімі справамі, але нават не знаёмы з сітуацыяй у нашай краіне і ў рэгіёне. Пры яго ўдзеле ажыццяўляліся акадэмічныя рэпрэсіі супраць іншадумцаў, былі скампраметаваныя еўрапейскія ўніверсітэцкія прынцыпы.

Установа, першапачаткова арыентаваная на выхаванне новай генерацыі свядомых грамадзян незалежнай краіны, канчаткова выйшла па-за межы інтарэсаў і ўплыву дэмакратычнай супольнасці Беларусі. З новым кіраўніцтвам яна ператвараецца ва ўніверсітэт каланіяльнага тыпу, камерцыйны праект, у якім беларусы выключаныя з удзелу ў прыняцці вызначальных рашэнняў.

З гэтае нагоды лічым неабходным заявіць, што ў сваім цяперашнім стане ЕГУ не дае падставаў надалей лічыць яго беларускім праектам. Падтрымка такога ўніверсітэта не можа ўспрымацца таксама як падтрымка дэмакратыі і правоў чалавека ў Беларусі, паколькі дзейнасць кіраўніцтва ЕГУ дыскрэдытуе гэтыя каштоўнасці.

Заклікаем грамадзянскую супольнасць Беларусі прыступіць да неадкладных практычных захадаў дзеля стварэння эфектыўнага канкурэнтназдольнага Нацыянальнага ўніверсітэта, у якім еўрапейскасць будзе прынцыпам існавання, беларускасць — стратэгічным выбарам, а Беларусь — унікальным рэсурсам даследаванняў.

Прынцыпам дзейнасці новага ўніверсітэта мае стаць не «Больш беларусаў у Еўропу», а «Больш Еўропы ў Беларусь».


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Святлана Алексіевіч**, пісьменніца, намінантка на Нобелеўскую прэмію
**Сяргей Антусевіч**, намеснік старшыні Кангрэсу дэмакратычных прафсаюзаў
**Уладзімір Арлоў,** пісьменнік
**Станіслаў Багданкевіч**, доктар эканамічных навук, прафесар, экс-старшыня Нацбанка
**Анжаліка Борыс**, старшыня галоўнай рады Саюза палякаў Беларусі
**Алесь Бяляцкі**, праваабаронца, намінант на Нобелеўскую прэмію
**Яўген Вапа**, старшыня Беларускага саюза ў Польшчы, дырэктар радыё «Рацыя»
**Зміцер Вайцюшкевіч**, спявак, музыка
**Андрэй Вардамацкі**, прафесар, доктар сацыялагічных навук
**Тадэвуш Гавін**, ганаровы старшыня Саюза палякаў Беларусі, доктар гуманітарных навук
**Людміла Гразнова**, старшыня грамадскага аб'яднання «Праваабарончы альянс», кандыдат эканамічных навук
**Алег Гулак**, старшыня Беларускага хельсінкскага камітэта
**Віктар Дашук**, кінарэжысёр, кінасцэнарыст, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР, народны артыст БССР, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР
**Ірына Дубянецкая**, акадэмічны дырэктар Беларускага калегіума, доктар філасофіі, доктар тэалогіі
**Максім Жбанкоў**, культуролаг, журналіст, кандыдат філасофскіх навук, дацэнт, экс-сябра Сената ЕГУ
**Ян Запруднік**, доктар гістарычных навук, Беларускі інстытут навукі і мастацтва, Нью-Ёрк
**Алесь Зарамбюк**, старшыня «Беларускага дома», Варшава
**Сяргей Ісакаў**, рэжысёр дакументальнага кіно
**Андрэй Казакевіч**, дырэктар Інстытута палітычных даследаванняў «Палітычная сфера», доктар палітычных навук, галоўны рэдактар часопіса «Belarusian Political Science Review»
**Святлана Калінкіна**, шэф-рэдактарка газеты «Народная воля»
**Кася Камоцкая**, спявачка
**Аляксандр Класкоўскі**, палітычны аглядальнік, кіраўнік аналітычных праектаў БелаПАН
**Андрэй Клімаў**, бізнэсмен, палітык, літаратар, дэпутат Вярхоўнага Савета 13-га склікання
**Іна Кулей**, старшыня камітэта «Салідарнасць»
**Аляксей Ластоўскі**, каардынатар аддзялення гісторыі Беларускага калегіума, кандыдат сацыялагічных навук
**Андрэй Лаўрухін**, кандыдат філасофскіх навук, дацэнт Нацыянальнага даследчага ўніверсітэта «Вышэйшая школа эканомікі», Санкт-Пецербург, экс-сакратар Сената ЕГУ
**Жанна Літвіна**, экс-старшыня Беларускай асацыяцыі журналістаў
**Алесь Лозка**, старшыня Таварыства беларускай школы, кандыдат філалагічных навук, дацэнт
**Анатоль Лябедзька**, старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі
**Валер Мазынскі**, рэжысёр тэатра і кіно, заслужаны дзеяч мастацтваў, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР
**Алена Макоўская**, кіраўнік МГА «Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына»
**Леанід Міндлін**, рэжысёр, сцэнарыст дакументальнага кіно
**Сяргей Навумчык**, журналіст, каардынатар апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце 12-га склікання
**Уладзімір Някляеў**, паэт, палітык, экс-кандыдат у прэзідэнты
**Уладзімір Падгол**, палітолаг, кандыдат філасофскіх навук, дацэнт
**Міхаіл Пастухоў**, прафесар, доктар юрыдычных навук, заслужаны юрыст Беларусі, экс-суддзя Канстытуцыйнага суда
**Анджэй Пачобут**, журналіст, публіцыст
**Барыс Пятровіч (Сачанка)**, старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў, галоўны рэдактар часопіса «Дзеяслоў»
**Алесь Пушкін**, мастак
**Андрэй Саннікаў**, каардынатар грамадзянскай кампаніі «Еўрапейская Беларусь», экс-кандыдат у прэзідэнты
**Павел Севярынец**, сустаршыня аргкамітэта Беларускай хрысціянскай дэмакратыі
**Алесь Смалянчук**, прафесар Інстытута славістыкі Польскай акадэміі навук, доктар гістарычных навук
**Аляксандр Старыкевіч**, галоўны рэдактар газеты «Салідарнасць», сябар Рады БНР
**Вольга Стужынская**, дырэктар «Офіса за дэмакратычную Беларусь», Брусэль
**Івонка Сурвіла**, старшыня Рады Беларускай народнай рэспублікі
**Аляксандр Тамковіч**, журналіст
**Андрэй Фёдараў**, эксперт па пытаннях замежнай палітыкі і бяспекі, кандыдат фізіка-матэматычных навук
**Андрэй Хадановіч**, паэт, старшыня Беларускага ПЭН-цэнтра
**Вячаслаў Хадасоўскі**, шэф-рэдактар газеты «Беларусы і рынак»
**Ірына Халіп**, журналістка
**Уладзімір Халіп**, кінадраматург, сцэнарыст
**Серж Харытонаў**, прэзідэнт Асацыяцыі выпускнікоў ЕГУ, супрацоўнік групы па развіцці спецыяльнай адукацыі на Бліжнім Усходзе пад патранажам Катарскага фонду па адукацыі
**Юры Хашчавацкі**, кінарэжысёр
**Павел Церашковіч**, кандыдат гістарычных навук, дацэнт, экс-старшыня Сената ЕГУ
**Віктар Шалкевіч**, бард, акцёр
**Станіслаў Шушкевіч**, член-карэспандэнт НАН Беларусі, доктар фізіка-матэматычных навук, прафесар, экс-старшыня Вярхоўнага Савета
**Ніна Шыдлоўская**, каардынатарка культурніцкай кампаніі «Будзьма беларусамі!»
**Аляксей Янукевіч**, старшыня партыі БНФ

#### 300 беларускамоўных студэнтаў

Паводле дадзеных Белстата, ва ўстановах вышэйшай адукацыі сёлета на беларускай мове вучацца 300 студэнтаў (0,1%), на рускай і беларускай мовах — каля 149 тысяч (41%), на рускай мове — каля 212 тысяч (58%).

### Сцісла

#### Падаражэў тэхагляд аўтамабіляў

Цана за паслугі «Белтэхагляда» вырасла на 30 тысяч рублёў: 190 тысяч для аўто з бензінавым рухавіком, 195 тысяч — для «дызеляў». За налепку прыйдзецца дадаткова заплаціць 54 тысячы.

#### Брытанскую прынцэсу назвалі Шарлота Лізавета Дыяна

Пятая праўнучка Лізаветы II атрымала патройнае імя. Гэта другое дзіця ў сям'і прынца Уільяма і Кейт Мідлтан. У чарзе на брытанскі трон дзяўчынка саступае свайму дзеду прынцу Чарльзу, бацьку, а таксама старэйшаму брату — прынцу Джорджу.

#### Валютныя аблігацыі пад 10,5% гадавых

Кампанія «Еўрагандаль» (гандлёвая сетка «Еўраопт») выпускае 10 тысяч аблігацый намінальным коштам $1 за кожную. Тэрмін звароту — пяць гадоў. Працэнтны даход найвышэйшы ў краіне, аднак гарантыі вяртання грошай па аблігацыях няма.

ЯМ

### Рэкамендуем

## Жыхарка Докшыц выканала песню з мультфільма «Халоднае сэрца» па-беларуску

Студэнтка Аляксандра Радзевіч пераклала хіт для ўдзелу ў конкурсе «Каралева Вясна»

### Апытанні на nn.by

#### За каго Вы заўзееце на чэмпіянаце свету па хакеі, апроч Беларусі?

| | | |
|---|---|---|
| Расія | 110 | 10% |
| Швецыя | 101 | 10% |
| Чэхія | 179 | 17% |
| Славаччына | 75 | 7% |
| ЗША | 149 | 14% |
| Канада | 196 | 19% |
| Фінляндыя | 129 | 12% |
| За малыя краіны | 113 | 11% |

Усяго прагаласавала 1052 чалавекі

### Самае чытанае на nn.by за 29 красавіка — 5 мая

1 Хохмы Аляксандра Лукашэнкі — Пасланне 2015 года

2 Пасланне Лукашэнкі парламенту было папулісцкім па тоне і перасыпаным хохмамі

3 Дар'я Шманай зноў прысутнічала на пасланні Лукашэнкі

4 Юрый Зісер пра словы Лукашэнкі: Я не ўяўляю, як можна кантраляваць усіх яўрэяў

5 Прадстаўнікі праваслаўнай і каталіцкай царквы пракаментавалі выказванні Лукашэнкі

6 Рускія канікулы ў Мінску: калона элітных аўто з Масквы перад гатэлем «Еўропа»

7 Старонка Фраемчука «Укантакце» дазваляе ўбачыць унутраны свет чалавека

8 Джып «Гранд Чэрокі» сутыкнуўся з машынай жонкі Статкевіча, калі яна вярталася з калоніі

9 Стала вядома, дзе працуе «жанчына з чырвоным сцягам» Людміла Калантай

10 Аднакурснік Пуціна па Акадэміі КДБ: Вы сур'ёзна думаеце, што Пуцін які робіць падцяжкі твару, развяжа ядзерную вайну?

# Што выкінулі з паслання Лукашэнкі дзяржаўныя СМІ

**На гэты раз Лукашэнка па сваіх мерках гаварыў вельмі мала (усяго тры гадзіны) і бесканфліктна.**



Леташні зварот Лукашэнкі да народа і парламента быў нечаканым найперш тым, што кіраўнік краіны ці не ўпершыню стаў гаварыць пра важнасць захавання беларускай мовы. «Мы не рускія, мы беларускія», — сказаў ён тады на хвалі вайны ва Украіне.

Сёлета ж, у год прэзідэнцкіх выбараў, Лукашэнка імкнуўся не лезці на ражон, дагаджаў усім. Найперш — Расіі. «Мы прыедзем у сталіцу нашай Радзімы — Маскву, былую нашу сталіцу, 8 мая, калі скончылася вайна, як след там адзначым і прадэманструем, што мы — рускі мір!» Праўда, за пару хвілін да гэтага Лукашэнка сказаў: «Рускі мір? Гэта, я так разумею, не пра нас».

У вобразе Еўропы і Амерыкі Лукашэнка на гэты раз таксама не імкнуўся шукаць ворагаў. Наадварот, адзначаў станоўчыя тэндэнцыі ў адносінах з Еўрасаюзам. А таксама пацвердзіў сваю ранейшую тэзу, якая, дарэчы, многім не спадабалася ў Маскве: без ЗША не абыдзецца ўрэгуляванне ўкраінскага канфлікту.

І — нешта ў лесе здохла — добрае слова знайшлося нават для апазіцыі. «Не ўсе такія гадкія і працаўныя», — адзначыў у характэрнай для сябе манеры выступоўца.

Лукашэнка быў папулісцкім па тоне і калі прамаўляў пра эканоміку. Ён як бы між іншым адзначыў, што тэндэнцыі не самыя добрыя, але ўсё ў рабочым парадку будзе вырашацца. Можна сказаць, што скарыстаны быў ранейшы лейтматыў: «Шараханняў не будзе».

Зрэшты, традыцыйна самае цікавае пачыналася тады, калі Лукашэнка адрываўся ад паперчыны, ды пачынаў гаварыць адсябеціну. Часам настолькі няўдала, што дзяржаўным выданням і тэлеканалам даводзілася выразаць цэлыя кавалкі.

Напрыклад, гэта тычыцца «загаду» старшыні Мінскага аблвыканкама Сямёну Шапіру «ўзяць пад кантроль, унармалізаваць» уласніка tut.by Юрыя Зісера, які «паводзіць сябе непрыстойна». А чаму Шапіру? Бо дамаўляліся, што Шапіра будзе кантраляваць усіх яўрэяў.

Другі выкраслены момант — гэта словы Лукашэнкі пра святароў, якія «ўціхую недзе касячаць». Кіраўнік Беларусі раскрытыкаваў і назваў «дзікунствам» тое, што высокія іерархі цэркваў не могуць браць шлюб, але пры гэтым агітуюць за моцную сям'ю.

І трэцяе. Калі Лукашэнка пачаў гаварыць пра расійскія серыялы, якія было б добра замяніць на беларускія, то ўжыў фразу пра беларускіх акцёрак, якія «кувыркаюцца ў ложку з расійскімі мужыкамі». Мабыць, гэтыя словы таксама падаліся камусьці занадта фрывольнымі.

**Зміцер Панкавец**



**Зісер: Я не ўяўляю, як можна кантраляваць усіх яўрэяў**

«Безумоўна, самыя розныя чыноўнікі, у тым ліку і Шапіра, даюць нам рэкамендацыі і выказваюць сваё меркаванне або незадаволенасць адносна нашых матэрыялаў. Гэта ў нашай дзяржаве ў парадку рэчаў.

Але я сабе не ўяўляю, як можна кантраляваць есіх яўрэяў. Бо яны не з'яўляюцца нейкай арганізацыяй. Іх у нашай краіне дзясяткі тысяч. Мы, вядома, слухаем думкі гэтых людзей. Але ўсе рашэнні прымаем самастойна, зыходзячы з нашай рэдакцыйнай палітыкі», — сказаў уласнік партала tut.by. Юрый Зісер.

**Пяць хохмаў ад Аляксандра Лукашэнкі**

«Мы разбаловали народ и в этом наша заслуга!» — пахваліўся Аляксандр Лукашэнка.

«Не путайте кое-что с кое-чем», — засцярог Аляксандр Лукашэнка.

«Никогда не отказывайтесь от дискуссий с нашей пятой колонной. Дружите с этими людьми. Не все они вредные, гадкие!» — параіў Лукашэнка.

«Пора соску у народа и предприятий отнимать! Ну с населением мы уже эту проблему уладили», — сцвярджае Лукашэнка.

«У меня в голове это забито как осиновый кол», — заявіў Аляксандр Лукашэнка.



**Палітбюро.**



## Як я спрабаваў «зарэгістравацца» ў аблвыканкаме

Піша **Яўген Ліпковіч**.

Патэлефанаваў у аблвыканкам.
– Алё, прыёмная.
– Добры дзень, мяне завуць Ліпковіч Яўген. Па тэлевізары прэзідэнт у пасланні сказаў, што ўсе яўрэі павінны рэгістравацца ў Шапіры. Я вам тэлефаную, каб даведацца, як мне гэта зрабіць?
– Пачакайце.
Пераключае.
– Добры дзень.
– Добры дзень, мяне завуць Ліпковіч Яўген. Па тэлевізары прэзідэнт сказаў, што ўсе яўрэі павінны зарэгістравацца. Вось я тэлефаную вам, каб даведацца, як гэта зрабіць?
– Нам шмат людзей тэлефануе, кожны дзень тэлефануюць.
– Што, і ўсе хочуць зарэгістравацца?
– Так.
– І інфраструктура гатовая?
– Вам як адказаць, сур'ёзна ці як?
– Праўду мне адкажыце.
– Вы супакойцеся.
– Я спакойны.
– Супакоіліся?
– Так.
– Дык вам як адказаць: сур'ёзна ці не?
– Вядома, сур'ёзна. А то ўвядзяце рэгістрацыю задняй датай...
– Што-што?
– У мяне жонка за мяжой, яна сказала, што не будзе вяртацца ў краіну. Гэта ніякія вам не жарты.
– Э ... гм...
– Як вас завуць, я не пачуў.
– Сяргей Паўлавіч мяне завуць.
– Пасада ў вас ёсць, Сяргей Паўлавіч?
– Супрацоўнік сацыяльна-адміністрацыйнага аддзела аблвыканкама.
– А прозвішча якое?
– Прозвішча не скажу.
– Чаму?
– Не хачу.
– Я ўсё роўна даведаюся ў прыёмнай, на каго мяне пераключылі.
Кінуў трубку.

## Якія серыялы глядзіць Лукашэнка

Выступаючы з пасланнем да парламента 29 красавіка, Аляксандр Лукашэнка выказаўся і пра серыялы. У прыватнасці, ён высока ацаніў серыял «Ляснік». Маўляў, падабаецца, бо лёгкі. Пра што ж гэты фільм?

Былы спецназавец Леанід працуе ў тайзе лесніком. Разам з аднадумцамі ён раскрывае злачынствы браканьераў і бандытаў, дапамагае жыхарам вёскі Альхоўка.

Такі сюжэт мае серыял «Ляснік».

Галоўную ролю ў серыяле выконвае данецкі акцёр Алег Штэфанко, вядомы па ўдзеле ў фільмах «Пудзіла» і «Сэрцаедкі», серыялах «Бітва за Маскву», «Бітва за космас», «Гульня на выбыванне» і «У пошуках капітана Гранта».

Серыял выходзіць у эфір на НТВ з 2011 года. Сёння паказваюць ужо трэці сезон. Галоўны герой знаходзіць новае каханне, але тут жа дзяўчыну забівае кілер.

«Ляснік» атрымаў змяшаныя водгукі, адзнака гледачоў на «Кінапошуку» складае 5,6 з 10 балаў.

«У культуру ўкладзеныя немалыя грошы. Але жаданай аддачы пакуль няма. Расія стварыла столькі просценькіх, лёгкіх фільмаў. Мне спадабаўся фільм «Ленінград-46», «Ляснік». Яны ж у Мінску здымаюцца. У тых закутках, якія нават Ладуцька не наведваў. Няўжо мы не можам стварыць такія фільмы? Людзі б глядзелі. У пасцелях, гляджу, кувыркаюцца нашы дзяўчаткі беларускія з рускімі мужыкамі. Людзям надакучыла гэтая абнажонка», — казаў Лукашэнка.



Ён назваў неэфектыўнай дзяржаўную палітыку ў галіне культуры і запатрабаваў стварэння простых беларускіх серыялаў на ўзор тых, якія здымаюць расійскія тэлеканалы.

**Аляксандр Арсёнаў**

## Як словы Лукашэнкі пракаментавалі святары

«Жанаты святар не можа стаць епіскапам, не прыняўшы манаства. Усе епіскапы праваслаўнай царквы, адпаведна з канонамі не маюць сям'і. Кіраўнік Беларускай праваслаўнай царквы не мае сям'і, ён манах. У нас няма падстаў сумнявацца ў тым, што епіскапы беларускай праваслаўнай царквы захоўваюць зарок бясшлюбнасці і вядуць набожны лад жыцця, адпаведна з канонамі веры і маралі праваслаўнай царквы», — сказаў прэс-сакратар Беларускай праваслаўнай царквы протаіерэй Сергій Лепін.

«Бясшлюбнасць — гэта адно з абяцанняў, якое прымаецца чалавекам свядома, і яно вельмі важнае для прадстаўнікоў каталіцкай царквы. Для многіх прыход становіцца сям'ёй. Ёсць сямейны рух, які курыруюць святары, таксама ёсць практыка духоўнага бацькоўства. Святары дапамагаюць выхоўваць хросных дзяцей, паказваючы прыклад словам і справай», — падкрэсліў прадстаўнік Беларускай каталіцкай царквы Юрый Санько.

**БелаПАН**

# Эксперт: удзел расійскіх войскаў у мінскім парадзе можа каштаваць мільёны даляраў

Сёлета ў мінскім парадзе 9 мая, апроч беларускіх вайскоўцаў, возьмуць удзел **дэлегацыі з Расіі і ЗША**.

Амерыканцы дасылаюць толькі аркестр ваенна-паветраных сілаў у Еўропе, 40 чалавек. Расійскі парадны «дэсант» больш салідны.

«У сталіцу Рэспублікі Беларусь Міністэрства абароны Расіі накіруе 636 вайскоўцаў і 30 адзінак тэхнікі. У складзе калоны бранятанкавай, аўтамабільнай і спецыяльнай тэхнікі праедуць танкі Т-90, бронетранспарцёры БТР-82А, баявыя машыны пяхоты і дэсанту БМП-3 і БМД-2К-АУ, бронеаўтамабілі «Тыгр», самаходныя артылерыйскія ўстаноўкі САУ 2С19 «Мста», а таксама зенітныя ракетна-гарматныя комплексы «Панцыр», — паведамілі ў Міністэрстве абароны Расійскай Федэрацыі. Ад расійскіх ВПС у парадзе возьмуць удзел 15 самалётаў, у тым ліку бамбавікі-ракетаносцы Ту-22М3, Ту-95МС, знішчальнікі Су-34 і вучэбна-баявыя Як-130.

Улічваючы, што ўсяго ў мінскім парадзе возьмуць удзел 5 тысяч вайскоўцаў і 260 адзінак тэхнікі, расійскі складнік выглядае вельмі значным.

Чым абумоўленая такая актыўнасць Расіі ў выкарыстанні сваёй тэхнікі на замежных парадах у гэтым годзе? Адказвае вайсковы аналітык, кіраўнік праекта Belarus Security Blog Андрэй Паратнікаў.




**Андрэй Паратнікаў:** Па-першае, усё ж юбілейная дата. Другая сусветная, як і ў нас, у Расіі становіцца хрыбтом дзяржаўнай ідэалогіі. З тым адрозненнем, што ў нас Гітлера перамог савецкі народ, а там — рускі народ-пераможца. Па-другое, трэба прадэманстраваць, што Расія не трапіла ў міжнародную ізаляцыю. На парады запрашаюць як мінімум сяброў, а як правіла — хаўруснікаў.

**«Наша Ніва»: Чаму менавіта такі набор тэхнікі дасылае Расія ў Беларусь для ўдзелу ў парадзе?**

**АП:** Тое, што перавага аддадзеная наступальным узбраенням, павінна дэманстраваць гатоўнасць Крамля да актыўных дзеянняў. Гэта такі мэсэдж «рускія не здаюцца». І яскравая праява настрояў, якія пануюць у расейскіх вярхах. На жаль, настроі гэтыя суседзяў Расеі радаваць не могуць: градус імперска-шавіністычнай істэрыі зашкальвае.

**«НН»: Колькі каштуе такая буйнамаштабная адпраўка тэхнікі ў Беларусь? І хто нясе выдаткі?**

**АП:** Я не ведаю дакладных лічбаў. Магу толькі ўпэўнена казаць, што пералёт кожнага бамбавіка Ту-95 — гэта сотні тысяч даляраў. Да такой высновы можна прыйсці, калі параўнаць кошт фрахту транспартнага самалёта параўнальнай масы. Таму агулам удзел расейскага кантынгенту ў парадзе ў Мінску можа каштаваць мільёны даляраў. Без уліку амартызацыі тэхнікі, зразумела. І адбываецца гэта, вядома, за кошт расійскіх пенсіянераў і хворых на анкалогію, для якіх не знайшлося сродкаў у федэральным бюджэце на болесуцішальныя сродкі. За кошт Беларусі — толькі размяшчэнне і харчаванне расійскіх вайскоўцаў.

**«НН»: Ці ёсць верагоднасць, што нейкія з экзэмпляраў гэтай тэхнікі ў бліжэйшай будучыні могуць быць атрыманыя Беларуссю?**

**АП:** Мы ўжо атрымалі Як-130 і браневікі «Тыгр» пад назвай «Ліс». Астатняя тэхніка, якую будуць дэманстраваць расіяне, для нас альбо дарагая, альбо старая, альбо непатрэбная. На халеру нам стратэгічныя бамбавікі?

**«НН»: Навошта Расіі ўдзельнічаць у беларускім парадзе?**

**АП:** Гэта дэманстрацыя зоны ўплыву: «Тут русскій дух, тут Русью пахнет». Але гэта дэманстрацыя не для Захаду. Гэта дэманстрацыя для афіцыйнага Мінска: каб не забываліся. І не загуляліся ў шматвектарнасць.

**Гутарыў Зміцер Міцкевіч**

# У Гродне казакі паказалі джыгітоўку, а «Румол» раздаваў георгіеўскія стужкі

Фестываль славянскіх адзінаборстваў дазволіў гродзенцам адчуць **подых «рускага свету»**.

Па ліку гэта ўжо 15-ы фестываль славянскіх адзінаборставаў у Горадні. Са слоў арганізатара, лідара «Нёманскага казацтва» Уладзіміра Адамава, фестываль сабраў каля 30 клубаў з Расіі і Беларусі.

Падчас аб'яўлення ўдзельнікаў ды арганізатараў гукатэхніка зноўку ламаецца, і скандальную арганізацыю «Русь молодая» аб'яўляюць ледзьве не шэптам. Цікава, што бадай упершыню на фестываль прыехаў асабіста Сяргей Лушч, лідар «Румола», хоць пра яго падтрымку ініцыятывы Адамава вядома даўно.

«Румолаўцы» працуюць вокамгненна: адразу пасля аб'яўлення каля дзясятка дзяўчат пачынаюць раздаваць чорна-аранжавыя стужкі. Людзі бяруць ахвотна, вяжуць на рукі, заплечнікі, уплятаюць у валасы. Некранутыя «каларадскімі колерамі» застаюцца толькі падаспелыя студэнты-туркмены, дзейныя вайскоўцы ды афіцыёз з чырвона-зялёным яблыневым цветам на грудзях.

Падчас выступаў праваслаўных вайскова-патрыятычных клубаў удзельнікі аднаго з іх разбіваюць аб галовы сілікатныя блокі з надпісам «славяне». Інструктар, былы дэсантнік, назірае за выхаванцамі. Тут жа — паказальныя прыёмы самаабароны: нож, пісталет, гумовая дубінка... Усё пад выбухі піратэхнікі.

Лішнімі ва ўсім гэтым выглядаюць рыцары з «Белага Пегаса», «Дружыны св.Патрыка».

Апафеоз фестывалю — выступ казачага клуба «Ярмак» з Бабруйска на тэму Вялікай Айчыннай. Гэта рэканструкцыя бою партызанаў з немцамі, каб адбіць свайго палоннага. Цікава, што найвышэйшы па росце «немец» з пластыкавым аўтаматам на галаве мае пілотку ад строю беларускай міліцыі 90-х.

Здзівіла, што натоўп з некалькіх сотняў гасцей і ўдзельнікаў ахоўвала ажно... двое міліцыянтаў, якія туліліся недзе збоку. Рэч для Беларусі амаль немагчымая.

**Алесь Кіркевіч, Гродна**



Уладзімір Адамаў — лідар гродзенскі казакоў.

# «Назіраецца некаторае пацяпленне»

У Мінск прылятаў **міністр замежных справаў Аўстрыі**.

«Ваш прыезд — гэта добры знак», — сказаў Аляксандр Лукашэнка на сустрэчы з Себасцьянам Курцам. Таксама кіраўнік Беларусі адзначыў пэўнае пацяпленне ў адносінах Беларусі і Еўропы.

Лукашэнка выказаў думку, аналізуючы ўзаемаадносіны Беларусі з заходнімі дзяржавамі, што Захад размеркаваў рэспублікі былога Савецкага Саюза і замацаваў за імі сваіх адказных, і ў зону адказнасці Аўстрыі ўвайшла Беларусь.

«Я абсалютна быў не супраць таго, каб наладзіць самыя цесныя адносіны з Аўстрыяй,



і вельмі вялікую цікавасць выяўляла ў супрацоўніцтве з Беларуссю Германія. Я з гэтым пагадзіўся», — сказаў беларускі кіраўнік.

Варта адзначыць, што гэта ўжо другі цягам года візіт у Беларусь міністра замежных спраў краіны Еўрасаюза. Першым 20 лютага прыязджаў кіраўнік латвійскага замежнапалітычнага ведамства Ігар Рынкевіч. Таксама сёлета адбыўся візіт у Беларусь еўракамісара па палітыцы суседства і пашырэння Ёханэса Хана.

28-гадовы Себасцьян Курц з'яўляецца самым маладым у свеце міністрам замежных спраў. Гэтае ведамства ён узначаліў у снежні 2013. Курц нарадзіўся ў 1986 годзе ў Вене, скончыў юрыдычны факультэт Венскага ўніверсітэта. Праходзіў тэрміновую службу ў войску (Аўстрыя адна з нямногіх еўрапейскіх краін, якая не адмовілася ад прызыву). Цікавы факт: на момант прызначэння міністрам Себасцьян Курц яшчэ з'яўляўся студэнтам і не меў скончанай вышэйшай адукацыі.

**ЗП**

**У той жа час**

# Мікола Статкевіч застанецца ў турме да канца тэрміну

Суд над палітвязнем, экс-кандыдатам у прэзідэнты Мікалаем Статкевічам па змене рэжыму адбыцця пакарання — з заменай яго на турэмны, прайшоў у панядзелак, 4 мая, у Шклоўскай папраўчай калоніі №17.

Падставаю для змены рэжыму сталі «шматлікія парушэнні правілаў унутранага распарадку калоніі і непадпарадкаванне патрабаванням кіраўніцтва».

Вечарам суддзя Шклоўскага раённага суда Баранцава прызнала Мікалая Статкевіча вінаватым у парушэнні правілаў унутранага распарадку калоніі і прыняла рашэнне накіраваць палітвязня да скანчэння тэрміну зняволення ў турму, а гэта 1 год, 7 месяцаў і 15 дзён.



Адвакат Аляксандр Галіеў паведаміў «Нашай Ніве», што пакуль невядома, дзе гэта будзе адбывацца. «Калі Статкевіч прыбудзе ў месца зняволення, адміністрацыя будзе абавязаная паведаміць сваякам пра ягонае месцазнаходжанне. Адпаведна, будзем самі турбавацца іх», — сказаў сп. Галіеў.

**МБ**

# Нерухомасць: «дна» цэнаў не відаць, разбежка прапановаў і попыту стала рэкорднай



Сяргей Гудзілін

Піша рыэлтар **Таццяна Снітко**.

Рынак нерухомасці Беларусі сёння перажывае з'явы, тыповыя для эканамічнага крызісу. Збядненне насельніцтва за апошнія месяцы і практычная адсутнасць крэдытнай падтрымкі з боку фінансавых інстытутаў прывялі да падзення купчай здольнасці, зніжэння попыту і перманентнага зніжэння цэнаў на жытло. Да таго ж, назіраюцца істотныя змены ў структуры попыту: на некаторыя віды аб'ектаў яго цяпер проста няма.

### 1. Цэны працягваюць падаць штотыдзень

Гэта заўважна нават простым вокам, тут не трэба быць вялікім спецыялістам. «Цэннік» на кватэры, загарадныя дамкі і зямельныя надзелы ляціць уніз з узрастаючай хуткасцю. І толькі літаральна цягам апошняга тыдня актыўнасць рынку крыху вырасла, а падзенне ледзь прыкметна запаволілася, але далёка не на ўсе віды выстаўленых на продаж аб'ектаў. Пункта, у якім падзенне спыніцца, пакуль не відаць.

Цяпер настаў зорны час для набыцця нерухомасці тым, хто робіць гэта за жывыя грошы.

### 2. Пытанне, ці магчымы торг, страціла сэнс

Звыклага для рыэлтара паняцця продажу з торгам цяпер не існуе. Торг магчымы апрыёры, бо такі час. Просяць зніжкі літаральна ўсе, хто прыглядае для сябе новы кут. Больш за тое: з досведу апошняга часу, прадаюцца выключна тыя аб'екты, на якія гаспадары пагадзіліся даць зніжку.

Да чаго быць гатовым, калі вы прадаяце сваю хату і калі, наадварот, хочаце яе прыдбаць? З досведу, мінімальныя зніжкі зараз — прыкладна 5—7% ад цаны ў аб'явах. Але, па-першае, гэта зольшага датычыцца адна- і двухпакаёвак, а па-другое, заўсёды бываюць выключэнні ў той ці іншы бок.

### 3. Амаль знік попыт на элітную нерухомасць

Маюцца на ўвазе не толькі самыя адметныя дарагія дамы сталіцы альбо найсучаснейшыя катэджы, але і любое жытло з еўрарамонтам. Часам яно прадаецца разам з усёй мэбляй ды бытавой тэхнікай. Цяжкасці попыту, звязаныя з большымі цэнамі, асабліва перажываюць сёння каркасна-блочныя навабудоўлі з вялікімі метражамі. Падобныя тэндэнцыі датычацца і стылёвых, традыцыйна элітных «сталінак» — гэтыя віды кватэр, асабліва ў самым цэнтры Мінска, сёння сталі недасяжнымі для пакупніка незалежна ад наяўнасці ў іх рамонту і мэблі. І гэта пры тым, што яшчэ 2—3 гады таму шукаць новыя паступленні такіх кватэр даводзілася кругласуткава без выходных і святаў, каб не ўпусціць шанец для кліента іх набыць за прымальныя для яго грошы.

Выбар кватэр у «сталінках» і нетыповых каркасна-блочных дамах цяпер велізарны, але праблема ў тым, што пакупнік альбо не мае на гэта сродкаў, альбо чакае яшчэ большага падзення цэн.

### 4. Навабуды абганяюць хрушчоўкі

Паводле падлікаў службы маркетынгу групы кампаній «Мальнар», на хрушчоўкі цяпер прыпадае 26% здзелак, у той час як на навабуды — 30%. Па назіраннях аўтара гэтых радкоў, гэта нонсэнс. Такога не было прынамсі за апошнія 8 гадоў.

Колькасць збудаваных у Мінску і блізкім прыгарадзе (Сеніца, Бараўляны) шматпавярховікаў выклікала вялікую канкурэнцыю, барацьбу за пакупніка і падзенне цэнаў. Забудоўшчыкі адзін перад адным заваблiваюць кліента акцыямі, бонусамі і зніжкамі. Якасць сучасных «панэлек» цалкам задавальняе спажыўца. Адзінае пытанне — звычайна вялікія ў такім жытле метражы адбіваюцца на цане. Відаць, як фінансава забяспечаны пакупнік спачатку сышоў на навабуды са «сталінак», так цяпер ён з-за недахопу сродкаў часткова адыходзіць у бок больш старой, стандартнай панэльнай забудовы. Самыя папулярныя двух- і трохпакаёўкі ў Мінску цяпер — стандартныя праекты, г.зн. кватэры з кухняю ў 7 квадратных метраў у 9-павярховіках.

**Паводле дадзеных партала Realt.by, сярэдняя цана прапановы кватэр складае $1542 за квадратны метр. На працягу апошніх месяцаў рэальная цана ўгоды на $120—125 меншая за прапанову.**

### 5. Цагляныя хрушчоўкі дасягнулі «панэлі»

Тым не менш, частка людзей па-ранейшаму купляе кватэры — і часцей за ўсё аднапакаёвыя — у звычайных пяціпавярховіках. Прычына, натуральна, палягае ў фінансах. Уплывае і іншае. Зараз большасць «хрушчовак» перажыла ці вось-вось перажыве капітальны рамонт з заменай вокнаў, камунікацый, часам з уцяпленнем дома. Часта забудова тых часоў месціцца не вельмі далёка ад цэнтра сталіцы, у старых цяністых дворыках з бабулькамі і кветкамі. Калі чалавеку бракуе грошай на аднапакаёўку ў новым доме, ён можа лёгка пераканаць сябе, што цяністы дворык з коцікамі лепшы за асфальтаванае чыстае поле спальнага раёна, і знайсці душэўную гармонію ў выратавальна малым метражы.

Нават недалёка ад цэнтра з-за абвальнага падзення цэнаў можна набыць жытло ў цёплым цагляным доме за грошы, якіх раней хапала на такое ж выключна ў панэльным. Таму здзелкі з «хрушчоўкамі» ў цагляных дамах цяпер найпапулярнейшыя, а колькасць непрададзеных кватэр у пяціпавярховых «панэльках» пакуль штодня расце. Да зніжак на іх гаспадары псіхалагічна негатовыя.

### 6. Няма ўсплёску попыту на прыгарад

Штогод у гэтую пару года тэлефоны разрываюцца ад званкоў ахвотных набыць хатку за горадам. Цяпер ажыятажу на лецішчы і вясковыя хаткі, мякка кажучы, не назіраецца. Дамамі, якія каштуюць больш за $150 тысяч, мала хто цікавіцца зусім.

Яшчэ з мінулай восені найбольшым попытам карысталіся прасценькія лецішчы ў радыусе 30—40 км вакол сталіцы коштам да $15 тысяч. Дамы ў вёсках пакупнікі былі гатовыя набываць за $20—25 тысяч. Здзелкі адбываліся ў выпадку саступак на $3—5 тысяч, але многія гаспадары не былі тады да іх гатовыя. Цяпер могуць саступіць, ды ўжо фактычна няма каму. Лецішчы восенню — гэта кватэры вясной.

З катэджамі праблем яшчэ болей з-за непад'ёмных для многіх коштаў, нягледзячы на тое, што ў ваколіцах іх набудавана вялікае мноства. Уласнікі навабудоўляў з блокаў і цэглы, з газавымі катламі і без, шклопакетамі і маляўнічымі відамі з балкона стараюцца прапаноўваць розныя бонусы, напрыклад, растэрміноўку ў аплаце ці дапамогу з унутранай аздобай, але толку ад гэтага асабліва няма.

### 7. Пакупніка больш не цікавіць блізкасць да Мінска

Па аналогіі з тым, як у самім Мінску спаў попыт на цэнтр горада, у прыгарадзе цікавасць пакупніка з дарагой 10—20-кіламетровай зоны перамясцілася далей. Людзі аддаюць перавагу большым, чым раней, адлегласцям ад сталіцы: 50, 70, нават 100 і болей кіламетраў. За тыя ж самыя $20 тысяч там рэальна прыдбаць дом не толькі большы, але і ў лепшым стане, з большым кавалкам зямлі (калі трэба весці гаспадарку), нават адразу з усімі бытавымі выгодамі. Укладваць сродкі, якіх няма, у добраўпарадкаванне ўжо нявыгадна ў параўнанні з паездкамі ў Мінск, кажуць людзі. Асаблівым попытам карыстаюцца Маладзечанскі, Барысаўскі, Дзяржынскі раёны. За 100—130 км, у залежнасці ад месца, цалкам добрую сядзібку цяпер набываюць максімум за некалькі тысяч.

У мінчукоў з'явілася тэндэнцыя больш часу праводзіць на прыродзе, і нават моладзь ужо часцей цікавіцца вырошчваннем да свайго стала экалагічна чыстай гародніны. Яшчэ год таму палова маладых сем'яў, купляючы лецішча, казала, што засее грады травою і будзе ездзіць сюды на шашлыкі.

Што да ўласнікаў хатак на продаж, то большыя шанцы абмяняць жытло на грошы ў гаспадароў таннай драўлянай хаткі, чым цаглянага дома.

### 8. Пакупнікі з Расіі зніклі

Статыстыка, паводле якой раней 5—6% угодаў прыпадала на расіян, ужо не актуальная. Раней усходнія суседзі часцяком былі пакупнікамі элітнага сегмента беларускай нерухомасці, цяпер гаспадары дарагіх кватэр страцілі надзею на некалі багатага суседа. Калі казаць без абагульненняў, то яшчэ з восені грамадзяне Расіі, наадварот, сталі адмяняць планаваныя ў Беларусі пакупкі, пачаўшы з камерцыйнай нерухомасці, якая пацярпела першай. У адрозненне ад мінулага года, незаўважная цяпер і плынь пакупнікоў з Украіны. Спадзеваў на інвестараў і перасяленцаў з заходніх краін асабліва не было ніколі — наадварот, тэндэнцыя продажу беларускай нерухомай уласнасці беларусамі, патэнцыйнымі альбо фактычнымі эмігрантамі, стала паціху ўзмацняцца.

Такім чынам, мы можам упэўніцца, што крызіс закранае найперш самых бедных і... самых багатых. З беднымі ясна, пад багатымі я маю на ўвазе ў тым ліку і гаспадароў выстаўленага на продаж дарагога жытла.

Выглядае, што свайго «дна» рынак дасягне не хутка. Пакуль прапановы жытла на продаж рэкордна перавышаюць попыт.

Напаследак — статыстыка прапановаў і попыту. Па дадзеных Нацыянальнага кадастравага агенцтва, у снежні мінулага года ў Мінску было выстаўлена на продаж каля 2600 кватэр, на якія прыпадала крыху менш за 1200 пакупнікоў. У лютым гэтага года разбежка колькасці прапановаў і попыту значна павялічылася: на 3600 кватэр — 830 тых, хто іх набываў. Усяго за месяц колькасць прапанаваных на продаж аб'ектаў амаль падвоілася (6956), а пакупнікоў — скарацілася да 768. Статыстыка па прыватных дамах, як у горадзе, так і за яго межамі, выглядае цяпер яшчэ больш кантрасна.

**Катастрофа ў Непале** вачыма дзяўчыны з Брэста.

# «Камяні засыпалі мой рукзак, пакуль я рабіла паклоны перад ступай»


REUTERS

25 і 26 красавіка ў Непале адбыліся моцныя землятрусы магутнасцю ў 7,9 і 6,8 балаў. Больш за 7 тысяч чалавек загінула, каля 15 тысяч параненыя. Былі разбураныя жылыя будынкі і шматлікія гістарычныя каштоўнасці. Па дадзеных ААН, землятрус так ці інакш закрануў 8 мільёнаў жыццяў, больш за трацiну насельніцтва.

Падчас катастрофы ў Непале знаходзіліся і беларускія турысты. Пакуль няма звестак, ці пацярпеў хто з іх. Кагосьці з іх эвакуявалі, але хтосьці вырашыў застацца. «Наша Ніва» пацікавілася ў беларускі Любові Праневіч, якая была відавочцай катастрофы і па сённяшні дзень знаходзіцца ў Катманду, што адбывалася і адбываецца ў Непале.

«21 красавіка я прыехала ў сталіцу Непала як турыстка. Я практыкую будызм, планавала правесці некалькі тыдняў у Катманду, наведаць будысцкія манастыры. Пра імавернасць землятрусу я не ведала. Сярод маіх знаёмых ніхто пра землятрус не гаварыў.

Я жыву ў раёне Ступы (Баўданатх) [ступа — будысцкае рэлігійнае збудаванне, храм]. Гэта вядомы будысцкі гістарычны помнік і месца, вакол якога стаяць манастыры. Вакол ступы звычайна робяць кору. Кора — гэта рытуальны абход святыні па сонцы. Калі робіш кору, чытаеш мантры альбо дасылаеш добрыя пажаданні ўсім жывым істотам. 25-га, у 11:30, я выйшла з гестхаўза і зрабіла кору вакол Ступы.

Паклоны ў будызме, у адрозненне ад хрысціянства, робяць, выпростоўваючыся ва ўвесь рост. Ну і я стала таксама рабіць паклоны, бо гэта мая асноўная практыка на дадзены момант. Праз адну малу, гэта 27 паклонаў, пачала трэсціся ўся Ступа. Што адбываецца, было незразумела і таму страшна. Я рабіла паклоны перад галоўнай ступай, а за мной стаяла малая ступа. І ўся макаўка яе падчас штуршкоў пасыпалася на тое месца, дзе я толькі што рабіла паклоны. Я разгрэбла каменне, выграбла з-пад яго мой абутак, заплечнік, кніжку з тэкстам практыкі і зрабіла яшчэ тры паклоны ў бок вялікай Ступы. Затым паціху выйшла праз галоўны ўваход.



Я пайшла ў бок манастыра знаёмага рынпачэ (у перакладзе гэта азначае «каштоўны, вялебны», гэта такі тытул у будысцкіх манахаў), каб запытацца, што адбываецца. Па дарозе сустрэла сяброўку з Расеі і прапанавала пайсці разам. Але прайшлі мы хвіліны тры, бо на бліжэйшым вольным ад будынкаў месцы, насупраць аднаго з уваходаў у Белую Гомпу (гэта вядомы манастыр), збіраліся людзі. І зноў пачало трэсці.

Тады стала зразумела, што гэта землятрус. І паводзіць сябе мы сталі адпаведна: селі на зямлю, далей ад будынкаў, і былі надзвычай уважлівымі.

Людзі рэагавалі на землятрус па-рознаму. Вядома, адчуваўся страх. Калі пачынаўся новы штуршок, людзі ўскрыквалі. Але ўсе-ўсе чыталі мантры. Тыя, хто сядзеў на зямлі, чыталі мантры і працягвалі чытаць, калі штуршок скончваўся. Аніякай панікі. Паміж штуршкамі людзі выходзілі на вуліцу, каб схадзіць па сваіх, хто застаўся ў дамах. Тады, у першы вечар, ужо называлі 500 ахвяраў па ўсім Непале. Было шмат спачуванняў.

Мы сядзелі на паляне гадзіны чатыры, але ўжо праз дзве гадзіны манахі з манастыра пачалі раўняць зямлю рыдлёўкамі і ставіць намёты. Было зразумела, што начаваць давядзецца на вуліцы. Калі асноўны страх прайшоў, стала зразумела, што такое землятрус — гэта стыхія, якую немагчыма кантраляваць, да якой немагчыма падрыхтавацца. Я напісала эсэмэс бацькам, што тут трэсла, але са мною ўсё добра.

Затым мы пайшлі ў манастыр, дзе жыла мая сяброўка, начавалі там. Было 3—4 штуршкі ў першую ноч. Калі адчуўся першы штуршок, я паднялася. Мне сяброўка кажа: «Люба, якая розніца, ляжыш ты ці сядзіш. Лепей лягай». Я пагадзілася.

На наступны дзень, 26-га, мая сяброўка Фарыда хвалявалася, што там з дзіцячым домам, які знаходзіцца недалёка ад Ступы Сваямбху (Сваямбхунатх). Там знаходзіцца 50 дзяцей, а таксама некалькі валанцёраў-еўрапейцаў. З імі не было сувязі, апошняе, што яна атрымала ад аднаго з іх, быў эсэмэс: «Я ў шпіталі». Таму на першы дзень пасля землятрусу паехалі туды.

На першы дзень ніхто не выязджаў далёка, было складана знайсці таксі. Сваямбхунатх — у іншым канцы Катманду. Усе крамы і крамкі, якіх бясконцае мноства, былі замкнёныя. Недалёка ад міжнароднай аўтобуснай станцыі была трагедыя. Там стаяць 6-7-павярховыя дамы. І вось яны пасклаваліся. Прычым, то там, то там. Некаторыя засталіся стаяць, а некаторыя паміж імі склаліся. Каля тых дамоў было шмат людзей, працавалі спецбрыгады. На Ступе Сваямбху, якая знаходзіцца на гары, таксама разбурыўся манастыр. Бачна было, што многа болю ў людзей, перажывання, бо пад заваламі родныя і блізкія.

На Баўда Ступе ўжо былі некалькі адчыненых крамак. Мы набылі макароны хуткага гатавання і печыва, каб на ўсіх у прытулку хапіла. Прывезлі ім. Мы перачакалі адзін штуршок у прытулку, пасля зайшлі яшчэ да знаёмых і да цямна вярнуліся на Баўда. На другі дзень таксама ездзілі ў прытулак, ізноў прывезлі ежу. Некаторыя валанцёры баяліся адыходзіць ад таго месца. Таму мы расказвалі што, дзе і як. Уначы быў дождж, і тым, хто без тэнтаў быў на вуліцы, прыйшлося няпроста.

Потым штуршкі сталі рэдкімі, людзі, у каго засталіся дамы, вярнуліся ў іх. Адчыніліся крамкі. Пачалі ездзіць таксі. Адчыніліся кавярні, стаў больш даступным інтэрнэт. Пайшлі навіны, стала вядома пра маштабы разбурэнняў. Людзі розныя: хтосьці, як можа, дапамагае, нехта ад'язджае.

Увогуле, штуршкі яшчэ ідуць, за суткі бывае па 3—4. Пад раніцу, здаецца з 3 на 4 мая, былі досыць моцны. Удзень таксама бывае. Мы ездзілі ў Шармінуб, манастыр за Сваямбху. Едзем звычайным шляхам, і тут на дарозе дом ляжыць — будынак склаўся і заваліў праезд. Дамы па ўсім Катманду яшчэ складваюцца і да гэтага часу. Зноўку працуюць спецбрыгады, зноўку людзі перажываюць боль.

Выехаць з Непала было праблемай. Аэрапорты перапоўніліся. Здарыўся яшчэ такі выпадак: мы адпраўлялі хлопчыка з Германіі ў Тайланд на лячэнне. Нас бельгійцы не захацелі браць на борт самалёта, які эвакуяваў людзей, квіткі на яго былі бясплатныя. Супрацоўніца, якая займалася пасадкай, сказала, што беларусы не еўрапейцы. Я сказала: «Мы — Еўропа». Яна не пагадзілася: «Вы не Еўрасаюз». Тады я і мая знаёмая з Расіі спыталі: «Што ж нам рабіць?» Адказ быў такі: «Уступайце ў Еўрасаюз». Але я лічу, што гэта проста недахоп жыццёвага досведу адной канкрэтнай асобы.

Я вырашыла застацца. Рашэнне прыняла толькі 29 красавіка. Пры гэтым адзін з ламаў раніцай 1 мая мяне пабачыў і пасмяяўся: «Ты яшчэ не ў Мінску?» Бо ў такой сітуацыі сам працэс прыняцця рашэння для мяне быў складаны. Але пакуль мне яшчэ патрэбна быць тут. Па адной з маіх версій, калі я не пражыву гэты досвед, моцныя эмоцыі пасля землятрусу, не вярнуся самастойна да звычайнага штодзённага жыцця, мала хто мне з маіх родных і псіхолагаў зможа дапамагчы. Квіток маю на пачатак чэрвеня.

Цяпер у Катманду я займаюся простымі рэчамі. Напрыклад, буду пекчы бліны з бананамі ў манастыры. Гэта і ежа, і надае смак нармальнага жыцця. Мы яшчэ ночым на вуліцы, бо манастыр увесь патрэскаўся і ёсць небяспека. Я б не назвала гэта валанцёрствам, хутчэй, гэта мой унёсак у жыццё манастыра. Я не буду масты і дарогі, не вызваляю людзей з-пад завалаў. Але часам, калі ёсць патрэба, удаецца дапамагчы. У простых штодзённых рэчах».

**Гутарыў Улад Швядовіч**

# «Маёй долі б на дзесяцярых хапіла»

Гібель бацькоў, партызаны, Атлантычны вал: жыхарка Мінска **Маіна Стырнэ** расказвае пра свой неймаверны лёс.

— Пра мяне бабуля казала: трэба было чорту нарадзіцца, радзілася дзеўка... Хто гэта думаў, што выйдзе такі спакойны, разважлівы чалавек.

Маіна Густаўна ставіць на пліту вясёлы чайнік у дробныя кветачкі, запарвае моцны чорны чай і частуе нас па-каралеўску: венскім пірагом ды вафельным торцікам. Сочыць, каб адразалі сабе кавалкі большыя. Сіцечка для гарбаты доўга не знаходзіцца. «Ну, значыць, будуць чаінкі!» — смяецца яна.

Цягам нашай размовы ў Маіны Густаўны звоніць тэлефон: сябры, родныя, суседзі... Здаецца, ва ўсім, што робіць і гаворыць гэта жанчына, — глыбокае шанаванне жыцця. Магчыма, такое наступства невясёлых гадоў ваеннай маладосці.

Маіна Густаўна Стырнэ нарадзілася ва Уздзе ў 1925-м, але з маленства жыла ў Мінску. «Для мяне горад канчаўся на Камароўцы, — кажа яна. — Калі пабудавалі Акадэмію навук, тата вазіў мяне, паказваў».

Іх вялікая сям'я — тата-латыш, мама-паляшучка родам з Давыд-Гарадка, маленькая сястрычка і маміны бацькі: непісьменная бабуля і дзядуля-рэвалюцыянер, што 12 гадоў адбыў на катарзе за царскім часам, — жыла ў доме на месцы цяперашняй Малой сцэны Купалаўскага тэатра, насупраць Аляксандраўскага сквера. «Скверык быў працягам нашага двара. Мы гулялі там: графіня, граф, а сяброўка мая была служанкай. Мы ведалі, што людзі ездзяць на дачу. І мы таксама «ехалі на дачу»: скверык і быў нашай «дачай».

Дзяўчынка вучылася ў школе на рагу вуліц Маркса і Леніна, на месцы цяперашняга сквера Грыцаўца. Перад вайной увялі плату за навучанне, з восьмага класа. Аднакласнікі пасыходзілі хто куды. «Бабуля працавала прыбіральшчыцай у кветкавай краме. Я ёй кажу: «Пайду працаваць». Бабуля паглядзела на мяне і адказвае: «Я поўзаць буду, але ты ў мяне школу скончыш!»



### Катастрофа

У 1941-м з сям'і ў 16-гадовай дзяўчыны адна бабуля і засталася. Бацьку, намесніка рэдактара часопіса «Бальшавік Беларусі», рэпрэсавалі ў 1937-м, маму — праз год. Сястрычка і дзед памерлі.

У першыя дні вайны Мая з бабуляй паспрабавалі эвакуявацца. Па Магілёўскай шашы: людзі ішлі суцэльнай плынню, локаць у локаць. «Так страшна. Упадзеш — падняцца ўжо не зможаш. І я кажу: бабуля, давай сыдзем з дарогі. Мы вярнуліся ў Мінск, два ці тры дні сядзелі ў парку Горкага». Артысты цырка зрабілі яміну на месцы танцпляцоўкі і абклалі яе цыркавымі дыванамі. Там хаваліся ад бамбёжкі самі, хавалі і іншых.

28 ліпеня, па праспекце, Мая з бабуляй і сям'ёй сяброўкі пайшлі ў бок Масквы. Дайшлі да Калодзішчаў, да чыгункі. У два грузавыя цягнікі, якія ішлі адзін за адным з інтэрвалам у гадзіну, набілася шмат людзей. Мая з бабуляй селі ў другі. «Сядзім, і я чую нібы рэха ад цягніка, але, здаецца, не нашага». У паўсне падалося, што прымроілася. І тут здарылася катастрофа: іх цягнік урэзаўся ў першы. «Я падаю і думаю, хоць бы галавой адразу — не рука, не нага — а то што ж я буду рабіць без рукі, без нагі?..» Падаючы з цягніка, Маіна Густаўна выбіла калена. Яно баліць дасюль. Такая вось памяць пра вайну, і праз 70 гадоў не загоеная.

Усю ноч пасля крушэння дзяўчына шукала бабулю. «Яна была ў зімовым паліто — людзі ўсё што маглі на сябе апраналі». Жахліва апісвае Маіна Густаўна, як нарэшце знайшла роднага чалавека каля чыгуначнага насыпу. Бабуля была яшчэ жывая. «Галаву яе паклала сабе на калені, а што там далей у яе — баюся глядзець. Ногі былі перакручаныя, ступня абрэзаная». Бабуля ўвесь час намаўляла ўнучку сыходзіць, ратавацца.

Хутка з'явіліся савецкія салдаты і прагналі цывільных, сказаўшы, што зараз будуць прымаць бой. За некалькі гадзін бою бабуля, якая заставалася ляжаць каля чыгункі, памерла. «Пакіньце мяне, я буду яе хаваць», — ірвалася дзяўчына. «Як ты будзеш магілу капаць?!» — угаворвалі яе спадарожнікі. «Рукамі!» — адказвала яна. Тады бацька і брат сяброўкі закруцілі яе ў коўдру і сілком павялі адтуль.

### «Пайду з вамі ў гета»

Праз пяць дзён пасля сутыкнення цягнікоў з выбітым каленам і раздзёртай нагой Мая вярнулася ў Мінск. «Дасюль памятаю карціну: на ўездзе ў горад, каля парку Чалюскінцаў, стаіць нямецкая машына, і побач дзве нашыя дзяўчынкі — смяюцца, размаўляюць з немцамі! Мяне гэта так уразіла!»

Дом, у якім Мая жыла да вайны, згарэў. Ёй удалося пасяліцца ў Пушкінскім пасёлку — раёне драўляных двухпавярховых дамкоў паміж Акадэміяй навук і паркам Чалюскінцаў. Кут знайшоўся ў кватэры тэатральнага артыста Ямпольскага, якога вайна заспела на гастролях, і суседзі адамкнулі яго жытло для тых, хто не паспеў эвакуявацца.

Побач з Маяй жылі дзве яе сяброўкі-яўрэйкі, якія збіраліся сыходзіць у гета. «Я не магла ўявіць, што адна застануся. Сказала, што пайду з імі. Але яны аднойчы паслалі мяне па ваду, а калі я вярнулася, іх не было, і ляжала на стале запіска: мы сышлі ў гета, ты нас не шукай».

Мая шукала, хадзіла ў гета. Але так і не знайшла. Нагледзелася жахаў — проста на яе вачах на Ракаўскай вуліцы немец забіў яўрэйку: «Ішоў афіцэр па тратуары, дастаў пісталет — і яна ўпала. Яўрэям нельга было хадзіць па тратуарах, яна ўпала на дарогу. Гэта было так страшна, што я забыла, куды ішла».

Побач з Пушкінскім пасёлкам, на Талбухіна, было поле бульбяное, шмат разоў перакапанае, «але мы ўсё адно туды хадзілі і перакопвалі, а потым знойдзеную бульбу запякалі ў печцы». Тут жа побач быў лагер ваеннапалонных — кожны ранак заставаліся замерзлыя трупы.

### У люфтвафэ

Хутка бульба скончылася. Каб выжыць, трэба было тэрмінова шукаць працу. «Выглядала я жахліва», — усміхаецца Маіна Густаўна. Уся вопратка згарэла з домам. Дзяўчына насіла 45-га памеру боты з галошамі, шэры жакет, знойдзены на сметніцы і перашыты.

Пасля многіх спробаў юнай Маі ўдалося ўладкавацца ў будаўнічую кантору, якая будавала ў Мінску аэрадром для люфтвафэ. Прыбірала пакоі, дзе жылі інжынеры, пазней перайшла на кухню, а нарэшце — у офісе перакладчыцай.

Інжынеры — немцы, аўстрыйцы, галандзец — былі цывільныя і рознага веку. Быў нават васьмідзесяцігадовы, прыгадвае Маіна Густаўна.

Праца дапамагла трохі наладзіць побыт. Дзяўчына брала з дому прац пасцель — на працы кацёл награваў ваду. «Адзін раз пасля працы як уявіла, што трэба вяртацца ў халодную хату, печку распальваць, — расказвае Маіна Густаўна. — Знайшла пусты пакой, да батарэі прыціснулася. І раптам заходзіць немец, запальвае святло. Я думаю: ну што ён зараз зробіць? А ён пагля дзеў, развярнуўся і сышоў».

«Так я з немцамі працавала два гады, — расказвае Маіна Густаўна. — Аднаго я ненавідзела. Ён хадзіў па яўрэяў у гета, браў іх на работы, потым адводзіў назад. У яго быў бізун, ён увесь час ляскаў ім па зямлі. Я думала: «Вось паразіт». Сказала аднэй яўрэйцы, а яна мне: «Што вы, ён нікога пальцам не крануў!.. Ён перадае лісты, прывозіць адказы».

### «Рускія» станікі і бойка з кухарам

Былі сярод мінскіх работнікаў люфтвафэ і жанчыны. Немка адзначылася тым, што выкрала ў галоўнага кухара ключы ад буфета і цягала адтуль каву ды цукар. А беларускіх дзяўчат ставіла «на шухер»: « Пыталася: чаго вам? Цукру мы прасілі і нешта яшчэ... Аднойчы немка запыталася: чаму ў рускіх жанчын так грудзі прыгожа трымаюцца? Папрасіла сшыць ёй такі ж бюстгальтар, як у нас».

Расказвае Маіна Густаўна і іншую гісторыю, што адбылася ў канцы 1943 года. Яна тады працавала на кухні. «Я сядзела ў кухні, нікога не было. Я наліла сабе супу і чытала... Тут убягае шэф-кухар з крыкам: мы звонім, а ты тут сядзіш (пасля аказалася, электрычнасці не было і званок не працаваў). Я павінна была супніцу ўзяць, наліць і аднесці ім. Ён выхапіў у мяне кніжку, кінуў яе: «Есці ты будзеш тады, калі мы паямо, і тое, што застанецца!» Ах так! Я выліла суп у памыі. А ён падышоў ззаду і ўдарыў мяне. Я падняла рукі і пайшла на яго. А ён адступае. Дзяўчаты потым казалі, што ў мяне быў зверскі выгляд. Я зацІснула яго ў кут і давай малаціць! «Мяне бацька родны не біў, — крычу, — а тут паганы фрыц руку падымае». Слёзы сталі мяне душыць, я схапіла паліто і ўцякла. Пазней дзяўчына, што працавала на рабочай кухні, перадавала: толькі і размоваў было пра тое, як ты пабілася з Кіршке».

### Праз балота ў партызаны

На той час яна ўжо была партызанскай сувязной. У атрад Маю прывяла сяброўка, медсястра Паліна, разам з якой яны працавалі. Каб не выходзіць з горада праз КПП на праспекце, дзяўчаты ішлі праз Камароўскае балота. Часам за горадам дзяўчат сустракала падвода. Людзі былі адно аднаму невядомыя, аднак дамаўляліся, як пазнаць сваіх. Напрыклад, вялікі палец на назе будзе завязаны чырвонай анучай. Аднойчы здарыўся казус: «Два немцы падбеглі і пытаюцца, куды едзем. — На Барысаў. — О, гут. Пачынаюць распытваць падрабязнасці. Я думаю, маўчаць — больш падазрона — і кажу: у партызаны едзем. Немцы як сталі рагатаць! Адзін саскочыў з падводы, прысеў і паказвае, што я б абкакалася са страху — у партызаны ісці!».

«Я была трэба партызанам, бо працавала ў дзяржаўнай канторы. Я насіла ім бланкі, праштампоўвала аўсвайсы», — кажа яна. У атрадзе Маіна Густаўна пачула і першую ў жыцці прапанову рукі і сэрца — ад камандзіра Івана Фёдаравіча. Тады ў лесе з'явіліся немцы і паліцаі, і ён дарупуў іх «пужнуць». А 17-гадовую Маю адвёў убок. «Я ўжо сабе нафантазіравала нейкае асаблівае заданне, — усміхаецца Маіна Густаўна. — А ён сказаў: «Мая, выходзь за мяне замуж».

### Французы дзівіліся

У студзені 1944 года Маіну Густаўну арыштавала СД. Яна два месяцы сядзела на Валадарцы, але даказаць, што яна была партызанскай сувязной, следчыя не змаглі: «Прыкідвалася дурніцай, казала, што ў атрад хадзіла з цікавасці». І ў сакавіку яе вывезлі ў Францыю, на прымусовую працу. Пасля Брэста вагоны не адкрывалі пяць сутак, толькі ўжо на тэрыторыі Бельгіі, Францыі сталі выпускаць: «Зорнае неба там абсалютна іншае, не такое, як у нас».

Іх адвезлі на будаўніцтва Атлантычнага вала, які Германія ўзводзіла супраць дэсанту антыгітлераўскай кааліцыі. «Мы былі брыгадай грузчыкаў, жанчыны. Грузілі бярвенне, дошкі, рэйкі. Першы час і рукі разбівалі, і прыцiскалі, потым навучыліся. Хадзілі французы глядзець, як жанчыны грузяць...»

### «Нейкая паперка»

Пасля была праца ў Германіі, вызваленне арміяй дэ Голя... «Часам думаю: як гэта аднаму чалавеку столькі дасталося. Тут бы і на дзесяць хапіла... Мне з біяграфіяй вельмі шанцавала: бацькі арыштаваныя савецкай уладай, тут — у акупацыі была», — з горкай іроніяй адзначае Маіна Густаўна.

Пасля вайны Маіна Густаўна скончыла Белдзяржуніверсітэт, доўгія гады працавала ў газетах «Колхозная правда» і «Чырвоная змена».

Цікава, што доўгі час яна ўдзельніцай вайны не лічылася. Штаб партызанскага руху выпісаў ёй даведку, але калі пазней усе сталі мяняць даведкі на пасведчанні, жанчына гэтым не перайма лася. Адзін выпадак змяніў стаўленне: «Рэдактар сабраў нас 9 мая і падчас віншаванняў кажа: у Маіны Густаўны таксама ёсць нейкая паперка... «Паперка» так мяне зачапіла, што я пабегла фатаграфавацца і атрымлівала пасведчанне ўдзельніка вайны».

У кватэры Маіны Густаўны многа карцін, што напісаў яе муж-мастак, а здымкаў мала — усе старыя сямейныя фота згарэлі ў вайну, разам з кватэрай. Але памяць Маіны Густаўны глыбокая, падрабязная, і карціну ваеннага жыцця, што паўстае з расповедаў гэтай спакойнай годнай жанчыны, не абмяжоўвае рамка фотаздымка.

**Запісала Паўліна Куприсьн**

# Рабаванне стагоддзя

Як баксёры і іх прамоўтары **людзей надурылі**.

Што трэба для паспяховага рабавання па-буйному? Добры план, выдатныя выканаўцы, правільнае месца і адпаведны час, чыннік, які адцягне ўвагу ад злачынцаў і дасць ім час знікнуць. І, канечне ж, варты аб'ект рабавання. У нядзелю 3 мая велізарная колькасць людзей па ўсім свеце была сведкамі аднаго з самых грандыёзных рабаванняў, якое транслявалася ў жывым эфіры шматлікімі тэлеканаламі.

Афіцыйна гэта называлася аб'яднаўчым боем за тытул чэмпіёна свету па боксе па версіях WBC, WBO і WBA у паўсярэдняй вагавай катэгорыі (да 67 кг) паміж філіпінцам Эмануэлем Пак'яа і амерыканскім баксёрам Флойдам Мэйвезерам. Шмат хто лічыць Мэні і Флойда аднымі з найлепшых баксёраў у гісторыі, а на дадзены момант яны займаюць трэцяе і першае месца, адпаведна, у сусветным рэйтынгу баксёраў без уліку вагавай катэгорыі. Такое супрацьстаянне павінна было падарыць шмат эмоцый і вялікую інтрыгу. Неафіцыйна ўсе называлі гэта «боем стагоддзя».



Эмануэль Пак'яа (справа) і Флойд Мэйверзер.

Каго абрабавалі? У першую чаргу — усіх аматараў бокса. Асабліва тых, хто заплаціў за прагляд так званага «бою стагоддзя». У вольны продаж паступіла ўсяго толькі 500 білетаў, якія былі раскупленыя менш, чым за хвіліну, а кошт самага таннага з іх склаў 1 500 даляраў. Астатнія білеты распаўсюджваліся прамоўтарамі баксёраў і іншымі кампаніямі. Па выніку самы дарагі квіток абыходзіўся ўладальнікам у 65 000 даляраў. Хаця гэта таксама толькі афіцыйныя звесткі: за дзень да бою ў інтэрнэце спрабавалі прадаць квіток за 150 000 даляраў.

Тэлевізійныя каналы прапаноўвалі платную трансляцыю коштам 99,95 даляра. Таксама варта ўзгадаць, што букмекеры прынялі 400 мільёнаў даляраў ставак на гэты бой. Самую вялікую зрабіў вядомы рэпер 50 cent — 1,6 млн даляраў на перамогу свайго сябра Флойда Мэйвезера.

Калі ўлічыць усе віды прыбытку, то агулам арганізатары бою зарабілі не менш за 400 мільёнаў даляраў ЗША. Фіксаваныя ганарары байцоў склалі 80 млн даляраў для Пак'яа і 120 для Мэйвезера.

Дык у чым жа рабаванне? — спытаеце вы. Непасрэдна сам бой — гэта проста адцягванне ўвагі ад таго, колькі грошай было зроблена на ўсім гэтым мерапрыемстве. Не варта падрабязна расказваць аб ходзе супрацьстаяння. Калі цэнзурна апісваць рэакцыю большасці экспертаў бокса пасля яго прагляду, то яе можна падсумаваць адным словам — «нудоціна».

Усё было скончана прыблізна а палове дзявятай раніцы па беларускім часе. Пакуль наша краіна толькі прачыналася, геніяльныя аферысты Мэні, Флойд і іх банда ўжо дзялілі прыбытак ад самай дарагой падзеі (нават ужо боем гэта назваць язык не паварочваецца) у гісторыі бокса. І толькі велізарная колькасць народу па ўсім свеце задала сабе адное і тое ж пытанне: «Што гэта было?».

**Зміцер Міцкевіч**



## Хакеісты перамагаюць пад бел-чырвона-белымі сцягамі

Чэмпіянат свету па хакеі — гэта рэдкая магчымасць для беларускіх заўзятараў узняць на трыбунах нацыянальныя бел-чырвона-белыя сцягі. У Беларусі іх не прапускаюць на стадыёны і арэны, а вось у замежжы, як правіла, перашкодаў не чыняць.

Сёлетняе першынства ў Чэхіі не стала выключэннем. На Арэне ў Остраве нашых хакеістаў увесь час вітаюць заўзятары з бел-чырвона-белымі сцягамі і Пагонямі. Праўда, і з афіцыйнымі чырвона-зялёнымі палотнішчамі людзей хапае. І ніякіх жа канфліктаў не ўзнікае. Газета «Прессбол» зрабіла здымак, дзе на беларускай трыбуне мірна суіснуюць два дзяржаўных і адзін нацыянальны сцяг.

Гульня зборнай Беларусі пакуль вельмі абнадзейвае. Перад чэмпіянатам спецыялісты прадракалі барацьбу за выжыванне ў эліце, бо не прыехала шмат лідараў, але гульня ўсё паставіла на свае месцы. Беларусы перамаглі Славенію і Данію, а таксама на роўных змагаліся з грознай Славакіяй, у якой змаглі выгрызці адзін пункт.

Асабліва натхнёна гуляе звяно братоў Касціцыных і Аляксея Калюжнага, а таксама брамнік Кевін Лаланд (натуралізаваны канадзец).

Самыя галоўныя нашы сустрэчы — ЗША, Фінляндыя, Расія — яшчэ наперадзе. Але ўжо сёння можна казаць, што чэмпіянат у беларусаў удаўся.

**Зміцер Панкавец**

**Меркаванне**

# Для дурняў

Піша **Андр эй Дынько**.



Біліся баксёры Мэйвезер і Пак'яа. Пераможца атрымаў 120 мільёнаў, пераможаны — 80 мільёнаў. Не балтарускіх рублісаў, даляраў. За адзін бой. А арганізатары бою — яшчэ больш наварылі.

Ну, як так? Ну як?

Баксёр плаціць здароўем за пацеху гледачоў (дарэчы, прафесійны бокс быў адзіным відам спорту, які асуджаў папа Ян Павел ІІ). Але — 120 мільёнаў? Гэта, уявіць сабе, кошт усіх кватэр разам, якія цяпер выстаўленыя ў Мінску на продаж. Гэта кошт вялізнага завода МАЗ, з усім яго набыткам, цэхамі, станкамі, маркетынгавай сеткай. За адзін бой!

Наша цяперашняе грамадства гатовае дорага плаціць і за забавы, і за мастацтва. Але не за ўсе і не за любое.

Найлепшы баскетбаліст свету зарабляе 53 мільёны даляраў за год. Найлепшы футбаліст — 40 мільёнаў.

Карціны класікаў жывапісу прадаюцца цяпер і за 200 мільёнаў даляраў. Пры жыцці яны за іх мелі пару дзясяткаў франкаў, суседзі лічылі мазнёй, а цяпер шэйхі спаборнічаюць, хто перакупіць таго Суціна.

Па-першае, свет стаў такі багаты, якім ніколі раней не быў. І гэта добра.

Але, па-другое, свет прадукуе багацце з нічога. Ну што страціла б чалавецтва, калі б Мэйвезер і Пак'яа не пабіліся б?

І гэта значыць, што мы маем справу з пэўнай мыльнай бурбалкай новага тыпу.

Класіка — колішняя цюльпанная бурбалка ў Нідэрландах.

Грошы знянцэніліся, праца людская знянцэнілася, калі можна аддаць сто мільёнаў за адзін баксёрскі бой.

Свет ашалеў — скажаце вы. Не — ашалелі мы.

Бо адкуль бяруцца тыя 200 мільёнаў Мэйвезера і Пак'яа? З нашых білетаў і з нашай рэакцыі на рэкламу.

Найтаннейшы білет на іх бокс каштаваў 1500 даляраў. Ды што там амерыканцы — за білеты на якогасьці Кіркорава беларус лёгка гатовы аддаць 150 даляраў. Ах ёлкі-палкі, а купіць «Нашу Ніву» штотыдзень за 9300 рублёў — гэта ж шкада, я ж у інтэрнэце чытаю. А скінуцца па семсот тысяч на рамонт вуліцы — о не, буду чакаць, пакуль сельвыканкам зробіць. А ахвяраваць па 1000 даляраў на нацыянальны ўніверсітэт?

Але ж без незалежных СМІ не будзе ў нас нармальнага жыцця, а без нацыянальнага ўніверсітэта не захаваць мовы, і ямкі на вуліцы — гэта ж паказчык нашай цывілізаванасці. Затое на канцэрт, на новую мадэль айфона не шкадуем. Бо гэта пытанне прэстыжу!

Мы жывём у свеце скажоных дзікім капіталізмам уяўленняў аб прэстыжы.

Але не з білетаў складаецца асноўная доля тых баксёрскіх мільёнаў. Яна — з рэкламы.

Кошт рэкламы ўключаны ў кошт прадукту. Мы яго аплачваем, мы плацім гэтыя ганарары са сваёй кішэні. Мы настолькі дурныя, мы настолькі кепска адукаваныя, што не здольныя зразумець, што два прадукты аднолькавыя — што рэклама аднаго з іх не мяняе іх якасці.

Мы жывём у эпоху пераацэненых брэндаў. Людзі плацяць за амаль няўлоўную ўмоўнасць — за брэнд. Прычым рынкавая капіталізацыя многіх брэндаў ужо настолькі завышаная, што гэта таксама пачынае нагадваць бурбалку.

Але гэта перакос, і вечна так не будзе. Пажарнік павінен зарабляць больш, чым баксёр, адназначна. Я больш паважаю настаўніцу англійскай мовы з гімназіі сваёй дачкі, бо яна душу аддае дзецям, чым таго Мэйвезера. І стараюся спажываць так, каб ні капейкі маёй на тых Мэйвезераў не перайшло. А вось настаўніцы аддзячыць — не шкада. І сучасных Суціных мы можам знайсці вакол сябе.

Мэйвезеры і іншыя поп-зоркі разлічаныя на дурняў. Той, хто з розумам укладае грошы ў сучасных Суціных, здольны выйграць больш, чым той хто купляе Суціна старога. І той, хто ўкладае грошы ў настаўніцу па англійскай мове для свайго дзіцяці, выйграе больш, чым той, хто купляе білет на Робі Уільямса.

# Што ў галаве ў чалавека, які мог скрасці $840.000

У гэтым можа дапамагчы разабрацца **старонка «Укантакце»**.

Руслан Фраямчук — ахоўнік «Белсвісбанка», які падазраецца следствам у крадзяжы з сейфа свайго банка каля 840 тысяч даляраў у розных валютах. Не забыўся нават 100 злотых.

Фраямчук знік. Цяпер гэта самы шуканы чалавек у Беларусі. Але ягоная старонка «Укантакце» застаецца адкрытай. Іншыя людзі не маюць да яе доступу, а любы выхад у інтэрнэт самога Фраемчука зафіксаваў бы для следчых месца яго знаходжання.

Старонка Фраемчука дазваляе зазірнуць ва ўнутраны свет, пабачыць захапленні і стыль мыслення чалавека, якога падазраюць у адным з найбольшых крадзяжоў у гісторыі Беларусі.

Як ахоўнік, Фраямчук дасканала ведаў механізм працы аддзялення банка ў самым цэнтры Мінска, каля ратушы на плошчы Свабоды. Ён пакінуў банк апошнім пасля працоўнай суботы 25 красавіка. А знікненне грошай выявілі толькі ў панядзелак 27-га.

Як бацька, Фраямчук бязмежна любіць сваю 9-гадовую дачкумадэльку Алексію. Яе фотамі запоўнена старонка. З жонкай Русланам разведзены — інфармацыя на старонцы: «Нежанаты».

Прозвішча Фраямчук — рэдкае. Прозвішчы на —ук звычайна беларускія заходнепалескія або ўкраінскія і паходзяць ад уласных імёнаў. Дадзенае — ад рэдкай для нас, біблійнай формы імя Ахрэм, Яфрэм — Фраім, Эфраім.

9 мая 2014 года Фраямчук размяшчаў песню «А Студыё» «Нам нужна адна пабеда» і зычыў «Спасібо деду за победу».

А 30 мая мінулага года размясціў на сваёй старонцы іншую «мудрасць»: «Лепш зрабіць і пашкадаваць, чым не зрабіць і пашкадаваць». Магчыма, якраз тады, у перадлецце, у ягонай галаве і нарадзілася дзёрзкая задума.

**Мікола Бугай**



## Дэпутат палаты прадстаўнікоў Інэса Кляшчук абавязалася нарадзіць траіх дзяцей

Такую задачу жанчына паставіла перад сабой, **праслухаўшы пасланне Лукашэнкі** да народа і парламента.



«Калі прааналізаваць, на чым акцэнтаваў увагу прэзідэнт, то самы ідэальны варыянт — гэта сям'я, у якой трое дзяцей, у якой добра працуюць і пры гэтым выхоўваюць сапраўдных патрыётаў нашай краіны. Я для сябе паставіла задачу нарадзіць траіх дзяцей».

Інэса Анатолеўна Кляшчук нарадзілася 26 жніўня 1978 вёсцы Гольчыцы Слуцкага раёна. Скончыла Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя М. Танка, настаўнік матэматыкі з дадатковай спецыяльнасцю «інфарматыка», Акадэмію кіравання пры прэзідэнце Рэспублікі Беларусь па спецыяльнасці «дзяржаўнае і мясцовае кіраванне».

Працавала настаўніцай матэматыкі і інфарматыкі ў Васейскай і Бокшыцкай сярэдніх школах Слуцкага раёна Мінскай вобласці, першым сакратаром Слуцкага раённага камітэта грамадскага аб'яднання «Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі», першым сакратаром Слуцкага гарадскога камітэта грамадскага аб'яднання «Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі».

**kurjer.info**



АНДРЭЙ ЛЯНКЕВІЧ

## Стала вядома, дзе працуе «жанчына з чырвоным сцягам» Людміла Калантай

Мінчанка Людміла Калантай вядомая як «жанчына з чырвоным сцягам». На савецкія святы яна выходзіць на праспект Незалежнасці з камуністычнай сімволікай.

Ад размоваў з журналістамі бабуля адмаўляецца. Чым яна займаецца па жыцці?

«Людміла Калантай працуе кур'ерам у агенцтве «Мінск-Навіны» ці ледзь не з самага яго заснавання ў 2001 годзе.

Практычна кожны дзень я бачу яе — бадзёрую, ветлівую, з пакетам тэрміновай карэспандэнцыі і нашымі выданнямі. Без сцяга, але ў пунсовым паліто і берэце. Дарэчы, яна вельмі камунікабельная, але калі справа даходзіць да інтэрв'ю, тут жа адмаўляецца: гэтая яе дзейнасць — для душы», — паведамляе газета «Вечерній Мінск».

Кожнага чалавека, які выходзіць на вуліцы Мінска з нацыянальным беларускім сцягам, затрымліваюць. З савецкім хадзіць дазваляецца.

**ЯМ**

## Даследчыкі сцвярджаюць пра бессэнсоўнасць ёгуртаў

Мо і смачна, але на здароўе **ніякага эфекту**.

Навукоўцы Мадрыдскага ўніверсітэта прыйшлі да высновы, што рэгулярнае ўжыванне ёгуртаў не прывядзе да паляпшэння ў здароўі. Амаль 4,5 тысячы дарослых іспанцаў цягам 3,5 года праходзілі тэсты на ўплыў на здароўе ўжывання ці неўжывання ёгуртаў. Значнага паляпшэння здароўя не назіралася.

Падчас даследавання назіралася хіба нязначнае паляпшэнне інтэлектуальных здольнасцей «ёгуртаедаў», але яно ўкладалася ў статыстычную хібнасць.

Раней дыетолагамі была даказаная карысць ад «здаровай дыеты», у склад якой уваходзіць ёгурт. Меркавалася, што ёгурты могуць, напрыклад, палепшыць здароўе праз вялікую колькасць кальцыя і ўплыў на косткі, панізіць крывяны ціск ці прыпыніць набор вагі.

Але даследаванняў менавіта ёгуртаў асобна ад іншых кампанентаў дыеты не праводзілася.

Аб карысці ёгуртаў для здароўя часта кажуць у рэкламе. Але прынамсі ў Еўропе і ЗША цяпер такія заявы, хутчэй за ўсё, будуць забароненыя: і еўрапейскія, і амерыканскія законы патрабуюць навуковых доказаў для падобных рэкламных выразаў.

**Аляксандр Арсёнаў**



Кіно

## Сямейны канфлікт у Альпах

Форс-мажор
**Жанр:** драма, камедыя
**Рэжысёр:** Рубен Эстлунд
**У ролях:** Ёханэс Кунке, Ліза Ловен Конгслі, Вінсэнт Ветэрген, Клара Ветэрген, Крыстафер Хів'ю, Фані Метэліус, Карын Мірэнберг, Брэйдзі Корбет
Швецыя, Францыя, Данія, Нарвегія, 120 хв.
**Адзнака:** 7

Сям'я са Швецыі адпачывае на альпійскім горным курорце: бізнэсмен Томас, яго жонка Эбі і двое дзяцей. На другі дзень кантраляваная снежная лавіна выходзіць з-пад кантролю — і снежны пыл засыпае сям'ю падчас сняданку. Томас у паніцы ўцякае, пакінуўшы жонку і дзяцей. Ніхто з іх не пацярпеў, і праз пару хвілін ён вяртаецца. Баязлівасць мужа і нежаданне прызнаць сваю памылку нараджае канфлікт у сям'і.

Рэжысёр і аўтар сцэнара Рубен Эстлунд падчас стварэння чарговай драмы натхняўся ролікамі з YouTube. У прыватнасці, так у сцэнары з'явілася снежная лавіна, якая дала штуршок гэтай гісторыі. Там жа рэжысёр знайшоў музычнае афармленне — выкананую на акардэоне тэму з «Лета» Вівальдзі.

Стужка адзначаецца няспешным рытмам і статычнымі планамі горнага курорта і мізансцэн. Сцэны істэрык спачатку жонкі, а пасля мужа спецыяльна зацягнутыя, рэжысёр прапануе з іроніяй паставіцца да стыхійнага канфлікту. Яго цэнтральная тэма — неабходнасць праявы мужнасці ў некаторых сітуацыях ва ўмовах гендарнай роўнасці.

Здымкі адбываліся ў французскіх Альпах, а заключныя сцэны знятыя на маляўнічай горнай шашы ў паўночнай Італіі — Стэльвіа.

Стужка была высока ацэненая сусветнымі кінакрытыкамі. Яна атрымала нацыянальную ўзнагароду Швецыі «Залаты жук — 2014» як найлепшы




фільм, а таксама была паказаная на Канскім кінафестывалі ў праграме «Асаблівы погляд», дзе атрымала прэмію журы. Гэты ж фільм прадстаўляў Швецыю на «Оскары» (фільм на заменжай мове).

Фільм рэкамендуецца аматарам арт-хаўзу і еўрапейскага кіно.

**Настасся Уласава**

# «Маці як даведалася пра яго ўдзел у бандзе Марозава, захварэла і памерла»

**У Гомелі бандыт-марозавец атрымаў 20 гадоў калоніі за забойства васьмі чалавек.**



Гомельскі абласны суд 5 мая прызнаў вінаватым 42-гадовага Андрэя Шыльца (мянушка Дрон) у здзяйсненні шэрагу злачынстваў — забойстваў асабліва жорсткіх у складзе злачыннай групоўкі, удзеле ў бандзе, незаконным захоўванні і выкарыстанні зброі. На яго крывавым рахунку восем ахвяр. За злачынствы Дрон прысуджаны да 20 гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці. Судзілі яго ў тым ліку па Крымінальным кодэксе яшчэ 1960-га года — артыкул 100. Нават тады за падобнае злачынства прадугледжвалася суровае пакаранне — 20 гадоў калоніі альбо нават смяротнае пакаранне.

Суд праходзіў у закрытым рэжыме. Некаторыя пацярпелыя — сваякі ахвяр — не змаглі прысутнічаць на пасяджэннях, а некаторыя сведкі баяцца і цяпер прыйсці на суд, таму па магчымасці агучваліся іх пісьмовыя паказанні.

На вынясенні прысуду прысутнічаў бацька Андрэя — сціплы мясцовы рабацяга. Ён усё жыццё утрымліваў сям'ю, як мог, сваёй цяжкай працай — ездзіў на «шабашкі» ў Расію. Як сын трапіў у банду, не ведае. «Я сына не бачыў ужо 15 гадоў. Пра банду мы даведаліся толькі тады, калі Андрэя абвясцілі ў вышук, да нас стала хадзіць міліцыя», — кажа бацька.

Па яго словах, з дзяцінства Андрэй нічым асаблівым не вылучаўся, вучыўся сярэдне, займаўся боксам, ездзіў на спаборніцтвы, скончыў школу, паступіў у каледж на будаўніка, рана ажаніўся, развёўся, знайшоў другую спадарожніцу жыцця. Цяпер яго сыну ад першага шлюбу 20 гадоў. Пасля разгрому банды Марозава Дрон збег у Расію. Там асеў у Чэлябінскай вобласці, у невялікім горадзе, раённым цэнтры Карталы. Стварыў новую сям'ю, нарадзіліся дзеці (малодшаму цяпер чатыры гады). Імаверна, праблем з расійскім правасуддзем не меў, таму і трапіў у поле зроку паліцыі толькі ў 2013. Быў затрыманы і перададзены на радзіму.

Крымінальная справа складаецца з 44 тамоў. Суд цягнуўся з восені 2014 года. Складанасці судовага следства былі ў тым, што забойствы былі здзейснены дваццаць гадоў таму. Некаторыя людзі і цяпер жахаюцца, пачуўшы назву банды ці прозвішча іх лідара, хоць і расстралянага ўжо Сяргея Марозава.

«Маці яго, жонка мая, калі даведалася пра яго ўдзел у бандзе — вельмі моцна перажывала. Доўга хварэла і памерла. У яго сябар быў, Алег. Дык таго адразу, на пачатку «нулявых», пасадзілі, пяць гадоў далі. Той ужо адсядзеў і выйшаў. А вось ён бегаў. Але колькі вяроўачцы не віцца...» — махае рукой бацька.

У час прысуду ён дакорліва ківаў галавой, глядзеў на сына. А той збіраецца абскарджваць прысуд.

Злачынная групоўка пад кіраўніцтвам Сяргея Марозава дзейнічала ў Гомельскай вобласці з канца 1980-х па 2004 год. На рахунку групоўкі каля 100 злачынстваў, у тым ліку 15 забойстваў, рэкет, вымагальніцтва, згвалтаванні, рабаўніцтва.

Вярхушка банды — Сяргей Марозаў, Валерый Гарбаты і Ігар Данчанка — была асуджана да расстрэлу. Усяго па справе «марозаўцаў» да розных тэрмінаў пазбаўлення волі былі асуджаны 46 чалавек. А некаторых так і не знайшлі.

18 гадоў калоніі атрымаў былы начальнік крымінальнага вышуку, які «крышаваў» банду. Яшчэ адзін міліцыянер адправіўся за краты на 11 гадоў.

Дрон на судзе не прызнаў сваёй віны ў забойствах, па якіх яго судзілі. Хоць і не адмаўляў, што ў той момант знаходзіўся на месцы злачынстваў.

Так, у 1994 годзе ў Гомелі былі жорстка забітыя чатыры чалавекі. Да ног ахвяр прывязалі танкавыя тракі і скінулі целы ў раку Сож. Перад гэтым лідар банды ўпадабаў прыгожую дзяўчыну, якая не мела ніякага дачынення да банды. Яе выкралі на вуліцы, завезлі ў прыватны дом. Садысты жорстка здзекаваліся з дзяўчыны, гвалцілі яе, потым забілі і расчлянілі. Прыяцель дзяўчыны здагадваўся, хто можа быць вінаваты ў забойстве, і неяк пра гэта выказаўся. Бандыты вырашылі ліквідаваць хлопца. Той жа, прадчуваючы небяспеку, разам з братам з'ехаў у Вільню. Праз нейкі час у літоўскую сталіцу выехалі «ў камандзіроўку» два ўдзельнікі банды. Ім удалося хітрасцю завабіць братоў у Гомель. На радзіме іх і яшчэ двух прыяцеляў, якія прыехалі з імі з Літвы, забілі. Братоў забілі і скінулі ў раку, прывязаўшы металічныя тракі. Іх прыяцеляў кідалі ў раку з тракамі на нагах яшчэ жывымі.

У «марозаўцаў» былі крымінальныя канкурэнты. З імі бандыты распраўляліся хутка і жорстка. Траіх чалавек вывезлі ў лес, выкапалі яму, падводзілі па чарзе, білі па галаве металічнай трубой і кідалі ў яму, потым дабівалі нажамі.

Тым часам кропку ў справе «марозаўцаў» пакуль не паставілі. Некаторыя бандыты яшчэ на волі, у міжнародным вышуку. Іншых затрымлівалі ў Расіі і пакуль не вярнулі ў Беларусь, як, напрыклад, імавернага кілера банды Ігара Кулеўскага. Ён, дарэчы, пісаў скаргі ў розныя расійскія інстанцыі і ў Еўрапейскі суд па правах чалавека. Беларусь патрабавала ад Расіі экстрадыцыі падазраванага і гарантавала, што калі ён судом будзе прызнаны вінаватым, то да яго не будзе ўжытае смяротнае пакаранне.

**Юлія Шымкевіч**

# Удар па наркабізнесе

**Міністэрства ўнутраных спраў падвяло вынікі барацьбы з наркатрафікам. Праглядаецца станоўчая дынаміка.**

Летась органы ўнутраных спраў выявілі 7,3 тысячы нарказлачынстваў (на 46 працэнтаў больш) і больш за 4 тысячы злачынцаў. У 2014 на ўліку ў наркадыспансерах краіны стаяла 17 тысяч спажыўцоў псіхаактыўных рэчываў. 4,7 тысячы з іх устанавілі за мінулы год.

За тры месяцы 2015 выяўлена 1891 злачынства па лініі наркакантролю. З незаконнага абароту канфіскавана 56 кг наркотыкаў і 34 кг псіхатропаў, 1,6 тоны маку і 1,4 тоны насваю. Перакрыты восем каналаў паступлення ў Беларусь наркотыкаў. Раскрылі дзве наркалабараторыі і пяць прыстасаваных для вырошчвання канопляў памяшканняў. Па ініцыятыве МУС спынена праца 28 інтэрнэт-крам і 13 сайтаў, праз якія распаўсюджваліся псіхаактыўныя рэчывы.

Пастаўкі наркотыкаў спыняюцца і па нестандартных каналах. Напрыклад, з-за мяжы



«Абсталяванне», канфіскаванае на адной з наркалабараторый.

СЛЕДЧЫ КАМІТЭТ

спрабавалі пераслаць 41 пакет, у якіх знаходзілася паўтысячы зярнят канопляў, звыш 840 грам іншых наркотыкаў, 600 таблетак з псіхаактыўнымі рэчывамі. Да адрасатаў яны не дайшлі.

Аплата наркотыкаў часта праходзіла праз інтэрнэт на электронныя кашалькі, якія не былі ідэнтыфікаваныя. Гэта рабіла немагчымым адшукаць іх уладальнікаў, то бок наркагандляроў. З гэтага года яны павінны прайсці абавязковую ідэнтыфікацыю, каб не быць заблакаванымі. За тры месяцы 2015 зрабілі гэта толькі восем тысяч з 650 тысяч уладальнікаў такіх кашалькоў. Па меркаванні МУС, гэта значна аслабіла адладжаную схему разлікаў у наркабізнэсе.

Створана адзіная база ўліку спажыўцоў псіхаактыўных рэчываў. Вызначаны папраўчыя ўстановы для адбывання пакарання за нарказлачынствы, спецыялізаваныя лячэбныя прафілакторыі для хворых на наркаманію альбо таксікаманію.

**Кастусь Матушыч**

## Сцісла

### У Шчучыне загінула 5-гадовая дзяўчынка

Здарэнне адбылося ўвечары 3 мая. На тратуары каля жылога дома людзі пабачылі 5-гадовую дзяўчынку. Яе шпіталізавалі. Аднак выратаваць жыццё дзіцяці не ўдалося. Выявілася, што дзяўчынка выпала з чацвёртага паверха жылога дома. Бацькі пакінулі яе адну ў кватэры на 15 хвілін.

### Дзевяць дзяцей пацярпелі на атракцыёне

У Горках дзеці бавіліся ў двары на надзіманых батутах, калі падняўся вецер. У гэты час на атракцыёне знаходзілася сямёра дзяцей. У выніку падзення яны атрымалі цялесныя траўмы рознай ступені цяжкасці. Усе дастаўлены ў Горацкую раённую бальніцу. Прычым яшчэ двое дзяцей гулялі побач з атракцыёнам, калі ён перакуліўся, але таксама пацярпелі. Самаму маленькаму — два з паловай гады, старэйшаму — дзесяць гадоў. Цяпер вырашаецца пытанне аб завядзенні крымінальнай справы. Следчым трэба будзе высветліць, ці выконваў уласнік прыватнага атракцыёна ўсе правілы эксплуатацыі і тэхнікі бяспекі.

### Выкінуў жонку з акна

У Гомелі 20-гадовы муж 29 красавіка падчас сваркі з жонкай выштурхнуў яе з акна 5 паверха. У выніку падзення жанчына загінула на месцы. Мужчына знаходзіцца пад вартай.

### Дзве гадзіны вымагаў у пенсіянеркі гарэлку

У міліцыю 1 мая звярнуліся сваякі 82-гадовай жыхаркі в. Бор Баранавіцкага раёна. Яны паведамілі, што раніцай 29 красавіка ў дом да пенсіянеркі прыйшоў мужчына і, пагражаючы, стаў патрабаваць спіртное. Ён штурхаў яе, утрымліваў за рукі. Дзве гадзіны ён вымагаў у яе спіртное, пакуль пенсіянерка не сказала, дзе ў яе захоўваецца дзве бутэлькі гарэлкі. Па падазрэнні затрыманы 32-гадовы жыхар суседняй вёскі.

**КМ**



СЛЕДЧЫ КАМІТЭТ

# Джып «Гранд Чэрокі» сутыкнуўся з машынай жонкі Статкевіча, калі яна вярталася з калоніі

**Пагрозы** яе жыццю няма.

«Здарэнне адбылося на дарозе Шклоў—Бялынічы, на павароце на Цяцерына», — расказаў «Нашай Ніве» адвакат Мікалая Статкевіча Аляксандр Галіеў. 29 красавіка Марына Адамовіч вазіла яго ў калонію на сустрэчу з вязнем. Аварыя адбылася падчас вяртання ў Мінск.

Жонка Статкевіча ехала па галоўнай дарозе на сваім «Сітраене С4». Джып «Гранд Чэрокі» выехаў справа з другаснай дарогі перад самай машынай Адамовіч.

Яна ехала на хуткасці 90 кіламетраў за гадзіну, да джыпа было зусім блізка, калі яго заўважылі. Выезд справа там закрывае лес, тлумачыць Аляксандр Галіеў. Сутыкненне адбылося на паласе руху машыны Адамовіч, ёсць сведкі. Яны і дапамаглі дастаць жанчыну з разбітай машыны.

У «Гранд Чэрокі» за рулём быў малады хлопец. Акрамя яго, у аўтамабілі знаходзіўся яшчэ адзін мужчына. І Марына Адамовіч, і кіроўца «Гранд Чэрокі» былі дастаўленыя ў Круглянскі шпіталь з траўмамі.

«Наконт канспіралагічных тэорый... Наўрад ці...» — сказаў Галіеў. «Потым прыехаў бацька кіроўцы — выпіўшы. У яго 5-гадовая дачка загінула на пажары, расказваў ён», — кажа адвакат.

Машына Марыны Адамовіч разбітая цалкам, яе саму і Галіева ўратавалі падушкі бяспекі.

Адамовіч лічыць аварыю выпадковасцю, а не замахам. «Інакш бы трактар падагналі», — кажа жонка Статкевіча.

**Мікола Бугай**



# Міністр на судзе заступіўся за свайго намесніка

Працягваецца судовы працэс **па справе Фёдара Лісіцы**.



LESGAZETA.BY

Яго абвінавацілі ў злоўжыванні ўладай і службовымі паўнамоцтвамі. Паводле следства, Лісіца **(на фота)** незаконна набыў зямельны ўчастак, пабудаваў і прыватызаваў жылы дом, нямэтава выкарыстоўваў бюджэтныя сродкі.

На гэтым тыдні ў якасці сведкі выклікалі міністра лясной гаспадаркі Міхаіла Амельяновіча. Амаль дзве гадзіны ён адказваў на пытанні пракурора і адвакатаў. І ўвесь час абараняў свайго падначаленага.

«Фёдара Дзянісавіча я ведаю ад 1999 года як найпрыстойнейшага, найсумленнейшага кіраўніка. З падначаленых патрабаваў выканання абавязкаў і быў строгі да сябе».

Адзін з эпізодаў, у якім вінавацяць Лісіцу, тычыцца службовай кватэры ў сталіцы. Калі ў 2010 ён пераехаў у Мінск на высокую пасаду, у яго не было тут свайго кута. Засялілі ў службовую кватэру РВЦ-Лес (цэнтр павышэння кваліфікацыі) у аграгарадку Ждановічы. Там ён зрабіў дарагі рамонт, у якім не было патрэбы, на думку абвінаваўцы, закупіў за дзяржгрошы мэблю. А пасля паспрабаваў і прыватызаваць.

«Кватэра пуставала працяглы час. У той час быў ужо створаны кааператыў «Лес-2010», у якім усе супрацоўнікі РВЦ-Лес стаялі ў чарзе. І калі ім прапаноўвалі гэтую кватэру, то яны ўсе адмаўляліся: бо іх выключылі б тады з кааператыва», — даводзіць законнасць засялення міністр.

Але кватэра была ў кепскім стане. Бачыў усе яе хібы і Амельяновіч. Будынак, у якім жыў Лісіца, уключае ў сябе тры кватэры, вучэбны корпус, спартзалу. Тут праводзяцца і міністэрскія нарады. І рамонт адбываўся не выключна ў адным памяшканні.

«Рамонт патрабаваўся. Сцяна была такая, што прамярзала. Калі б мы не зрабілі рамонт у гэты перыяд, з 2010 па 2012, будынак мог бы разваліцца. Я калі заходзіў да Лісіцы, звярнуў увагу: «Як ты жывеш?» Падлога ўспушана была, на сценах — цвіль».

«Найпрыстойнейшы чалавек і кіраўнік», — паўтараў Амельяновіч.

А пасля выйшаў указ Лукашэнкі, які дазваляў службовае жытло прыватызаваць. У міністэрстве тады два супрацоўнікі пачалі збіраць адпаведныя дакументы. І Лісіца, калі пра гэта даведаўся, папрасіў уключыць у спіс на прыватызацыю і яго. Так і зрабілі, паколькі меў патрэбу ў жытле — у Мінску.

Але працэс прыватызацыі спыніла праверка Камітэта дзяржкантролю: кантралёры палічылі, што ўся працэдура незаконная. І ў выніку ні адзін з траіх работнікаў міністэрства не атрымаў запаветныя кватэры ва ўласнасць.

### «У мяне таксама былі сумненні»

Міністр Амельяновіч аказаўся дасведчаным кіраўніком: прынамсі, у курсе ўсіх спраў Лісіцы. Хоць сяброўскіх адносін не падтрымлівалі.

Ён пазнаёміўся з Лісіцам пасля свайго прызначэння ў 1999-м на пасаду дырэктара Мінскага дзяржаўнага вытворчага лесагаспадарчага аб'яднання: курыраваў усе лясгасы вобласці. Таму ён пракаментаваў і будаўніцтва дома ў вёсцы Тычыны. Амельяновіч акурат быў на будоўлі гэтага дома, які цяпер адзін з галоўных козыраў у руках абвінаваўцы: катэдж пабудаваў за кошт лясгаса, а затым яго прыватызаваў па заніжаным кошце. Гэты дом, па словах міністра, будаваўся адразу не пад Лісіцу: адразу не ведалі, каму з работнікаў дастанецца. Але кіраўнік мае першачарговае права на атрыманне службовага жытла. «Думаю, там парушэнняў няма».

Між іншым, Амельяновіч на судзе хваляваўся, часам глытаў словы. І нішто не выдавала ў ім міністра — гаварыў без пыхі. А калі скончыўся амаль двухгадзінны допыт, ён праявіў ініцыятыву і зрабіў заяву па іншым эпізодзе.

У 1999 годзе ездзіў па лясніцтвах. Заехаў у Яскавічы да Лісіцы. «Стаіць там высокі дом. Я падумаў, што гэта будынак лясніцтва. А ён кажа: «Гэта дом, які мы будуем разам з сям'ёй». У мяне адразу ўзніклі сумненні, як ён мог пабудаваць дом на тэрыторыі дзяржлясгаса. І тады яго жонка прынесла дакументы, па якіх сельсавет выдзеліў зямлю для будаўніцтва дома: менавіта на землях сельсавета». Маўляў, гэты эпізод пацвярджае сумленнасць яго былога падначаленага.

Па словах міністра, на сёння землеўпарадкавальныя і лесаўпарадкавальныя карты ў краіне не заўжды супадаюць. І яшчэ цяпер працягваецца праца па іх унармаванні. Гэта да пытання, што ўчастак Лісіцы ў Яскавічах па некаторых дакументах належаў да ляснога фонду, і ён незаконна вывеў зямлю і пабудаваўся.

У працэсе абвешчаны перапынак: чакаюцца вынікі экспертызы. Адвакаты рыхтуюць дадатковыя дакументы і новых сведак па справе.

**Сяргей Макарэвіч**

## Вышук



Грамадзянін Украіны Вадзім Глушчанка, 1977 г.н., 7 чэрвеня 2014 пакінуў жылы вагончык прадпрыемства «Функі-Бел» у п. Івянец Валожнскага раёна і не вярнуўся. Прыкметы: на выгляд 35-40 гадоў, рост каля 165—170 см, вочы шэрыя, валасы цёмна-русыя. Хто ведае месцазнаходжанне Глушчанкі, звяртайцеся на (029) 685-53-02.

## Сцісла

### Зарэзаў жонку

Маладыя муж і жонка былі пасварыўшыся, з-за чаго 24-гадовая жанчына пражывала ў сваіх бацькоў. Раніцай 29 красавіка муж прыехаў да яе і папрасіў выйсці на вуліцу пагаварыць. Але зноў пачалі сварыцца. Спалохаўшыся, жанчына патэлефанавала свайму знаёмаму па мабільніку. У гэты момант 29-гадовы муж парнуў яе нажом і збег. Сведкамі забойства сталі суседзі. Мужчыну затрымалі. У сямейнай пары двое дзяцей.

### Спірт у вагонах

Былы дырэктар Мазырскага спіртзавода падазраецца ў злоўжыванні ўладай або службовымі паўнамоцтвамі. На прадпрыемстве ўтварыліся вялікія рэшткі прадукцыі ў аб'ёмах, якія перавышаюць умяшчальнасць склада. Каб іх разгрузіць, завод арандаваў чыгуначныя вагоны-цыстэрны нібыта для экспарту спірту за мяжу. А па факце ў цыстэрнах на тэрыторыі завода і захоўваўся спірт. Шкода прадпрыемству ацэнена ў 1,4 млрд рублёў.

### Забудоўшчыка Дземчука асудзілі яшчэ раз

Бізнэсовец асуджаны на 8 гадоў калоніі з канфіскацыяй маёмасці за махлярства. Але ён ужо адбывае пакаранне за аналагічнае злачынства. У выніку яму да ранейшага тэрміну «накінулі» яшчэ год. У снежні 2012 Сяргея Дземчука прызначылі вінаватым у махлярстве. Яго фірма сабрала амаль 10 мільёнаў даляраў у беларускіх рублях на будаўніцтва трох шматпавярховікаў у сталіцы. Але ў выніку ніводнай кватэры так і не пабудавалі.

### 15 год за выкалатыя вочы

У Гомелі асудзілі маладых людзей, якія пад спайсамі пакалечылі свайго 23-гадовага прыяцеля: выкалалі яму вочы. 21-гадовага абвінавачанага прысудзілі да 15 гадоў калоніі, а 29-гадовага — да 11 гадоў. Яны павінны выплаціць на карысць пацярпелага кампенсацыю маральнай шкоды — па 1 мільярдзе рублёў кожны. Сваю віну фігуранты прызналі часткова: яны не пагадзіліся з тым, што выдалілі пацярпеламу вочы.

### Палкоўніка адправілі ў калонію

Былога намесніка начальніка Гомельскай абласной міліцыі Сяргея Зайцава адправілі ў калонію на 7 гадоў з канфіскацыяй маёмасці («НН» пісала пра гэтую справу ў адным з папярэдніх нумароў). Яго прызналі вінаватым у злоўжыванні службовымі паўнамоцтвамі. Яго таксама пазбавілі звання палкоўніка міліцыі і права займаць кіруючыя пасады на 5 гадоў.

**КМ**

# Трэш вялікай перамогі

**Палонны немец на пероне і кроў з кетчупу: у Мінск прыбыў агітцягнік «Кветкі Вялікай Перамогі».**

Цягнік на пероне чыгуначнага вакзала сустракалі тэматычныя пляцоўкі «Штаб», «Партызанскі лагер», «Сустрэча з фронту». Іграў аркестр.

Рэспубліканскі патрыятычны праект «Кветкі Вялікай Перамогі» ад БРСМ падтрымаў Аляксандар Лукашэнка яшчэ зімой 2015 года на з’ездзе арганізацыі.

Акцыя стартавала 24 красавіка? і за гэты час цягнік праехаў па тэрыторыі Беларусі па знакавых месцах вайны: Асіповічы, Бабруйск, Жлобін, Магілёў, Орша, Віцебск, Ліда, Гродна, Баранавічы, Брэст. Апошнім прыпынкам акцыі стаў Мінск.

**Фота Сяргея Гудзіліна**















# «Нашы адносіны развіваліся з экспрэсіяй ранніх паэм Максіма Танка!»

**Гісторыя кахання** Валярыны Куставай і Васіля Дранько-Майсюка.

17 красавіка Валярына Кустава — свецкая львіца, выкладчыца, аўтарка і вядоўца тэлеканала «Белсат», пабралася шлюбам з Васілём Дранько-Майсюком — рэжысёрам, сынам знакамітага паэта. Усе чакалі пышнага вяселля, але закаханыя сціпла і не публічна ажаніліся і толькі цяпер расказалі «Нашай Ніве» пра сакральнасць сваіх пачуццяў.

**«Наша Ніва»: Гэта не было каханнем з першага погляду? Наколькі мне вядома, з Васілём вы знаёмыя даўно. Што перашкаджала раней заўважыць адно аднаго?**

**Васіль Дранько-Майсюк:** Тут можна паспрачацца. Перад тым, як па-сапраўднаму ўбачыць сваё каханне з першага погляду, трэба, як казаў японскі філасаф Сэсон, прайсці і другія, і трэція, і пятыя погляды. І калі ўсе лішнія погляды знікнуць у нябыце, тады і з'явіцца ён — першы погляд, пры якім і нараджаецца сапраўднае каханне. 26 лістапада — дзень нараджэння Уладзіміра Караткевіча — гэта дзень нашага першага сапраўднага і насамрэч чароўнага спаткання, падчас якога ўсё лішняе сплыло і прыйшло сапраўднае.

**Валярына Кустава:** Хутчэй, мы мелі каханне з першага спаткання, пасля якога не расстаёмся. Гэта быў Космас. Каханне — гэта штука, якая глыбее штодня і робіцца ўсё мацнейшай і мацнейшай. Таму нават каханне сёння цяжка параўнаць з тым каханнем, што было пару месяцаў таму. З эмацыйнай сімпатыі, фізіялагічнай уражанасці і жарсці, інтэлектуальнага ўзрушэння пачуццё выгадоўваецца ў сардэчную і духоўную еднасць і каханне-жыццё.

**«НН»: Васіль, у які момант ты зразумеў, што Валярыну трэба зваць на першае спатканне?**

**ВДМ:** Я чарговы раз прыехаў з Масквы ў Менск. На некалькі дзён. У цягніку мне прысніўся сон. Я лячу за прыгожымі рознакаляровымі птушкамі (там былі і верабʼі, і галубкі, і індычкі, і калібры, і куры, і папугаі, і шмат-шмат хто яшчэ). Хачу іх злавіць і схаваць у торбу. І раптам перада мной паўстае мастак Язэп Драздовіч, перакрывае дарогу сваёй паставаю. «Дурррррань! — крычыць ён. — Куды ляціш? Каго ловіш???!» — схапіў ён свой самаробны, прыгожа інкруставаны кій — і як даў мне па лбе, і я паляцеў. Але не ўніз, а кудысьці ўверх — у само сонца. І так у гэтым сонцы ўтульна, добра, выдатна, што проста не выказаць! У той жа вечар выпадкова пабачыў у фэйсбуку, як Валярына чытае верш Янкі Купалы «Жняя», у якім галоўная гераіня параўноўваецца з самім сонцам. Я адчуў, што трэба патэлефанаваць Валярыне і запрасіць яе на спатканне.

**«НН»: Якім яно было?**

**ВК:** Спадабалася, што Васілю заімпанавала мая прапанова зламаць усю сістэму спатканняў і сустрэчаў, якія ў яго і ў мяне былі раней: мы не цалаваліся на першым спатканні, і я папрасіла не казаць мне словы, якія гавараць усім да мяне, накшталт «цудоўная», «сонечная», «па-джакондаўску адпаднае стварэнне», «цуд» і г.д. Да таго ж я не веру словам, толькі ўчынкам. Калі словы і ўчынкі супадаюць — файна. Хаця на першым жа спатканні Васіль (я не ўспрыняла на той момант гэтыя словы ўсур'ёз) прапрасіў: «Паабяцай мне, што будзеш са мной назаўсёды. Ты мне вельмі патрэбная». Я ж са свайго боку выпрашыла не гуляцца і не мучыць Васіля прыдуманымі капрызамі і заданнямі, накшталт «хачу падвескі князёўны Радзівіл» ці «заўтра сустрэнь на лімузіне!». І ад першага спаткання мы пачалі ламаць гэтыя нашыя сістэмы, а аскепкі ад іх спалілі на цёплым агмяні ў нашай сямейнай духоўцы, дзе пазней я згатавала сваё першае «мяса па-французску», якое з асалодай і з'еў мой будучы муж.

**ВДМ:** Спатканне было атулена святам дня нараджэння Уладзіміра Караткевіча. Мы сядзелі ва ўтульнай рэстарацыі (на вуліцы Карла Маркса, недалёка ад кватэры самога пісьменніка). Пра што мы размаўлялі? Пра эратызм прозы Міхася Зарэцкага і неўтаймаванасць лірыкі Міхася Стральцова, пра тое, што пацінтабрасаўску палка цалавацца варта з другога спаткання.

**«НН»: Як развіваліся вашыя адносіны?**

**ВДМ:** Адносіны развіваліся з экспрэсіяй ранніх паэм Максіма Танка!



ЮЛІЯ МАЦКЕВІЧ



ЮЛІЯ МАЦКЕВІЧ



ЮЛІЯ МАЦКЕВІЧ

Васіль Дранько-Майсюк з мамай.

**«НН»: Што вы адкрылі адно ў адным, чаго, магчыма, не бачылі раней?**

**ВК:** Мяне ўразіла, якім адказным, клапатлівым, шчырым, добрым і разумным аказаўся Васіль. Ён добры і вельмі годны чалавек, цікавы і глыбокі суразмоўца. Адкрыла блізкасць нашых выгадаваных за гэты час асобна і супалых цяпер поглядаў і пазіцый. А яшчэ ён дзівосна чыста і хутка мые посуд! Не налюбавацца.

**ВДМ:** Акіян іроніі, аднолькавыя погляды на жаночае харáство і рознасць поглядаў на харáство мужчын, уменне смяяцца з самой сябе, аднолькавую любоў да ласасёвага колеру. А яшчэ Валярына проста геніяльна гатуе! Жонка Янкі Купалы Уладзіслава Францаўна пазайздросціла б яе кулінарным талентам!

**«НН»: Васіль, апішы, калі ласка, характар Валярыны, а ты Валярына — Васіля.**

**Валярына Кустава:** Васіль — лёгкі, утульны, адказны, клапатлівы, шчодры і шчыры, эмацыйны, старанны, разумны, вясёлы, даверлівы. І гэтага дастаткова. Што немалаважна для мяне — ён таленавіты ў сваёй справе, ён выдатны драматург і выключна разумеўся з дзеткамі, якім выкладаў тэатральнае майстэрства.

**ВДМ:** Валярына — яркае спалучэнне харáства ўнутранага і вонкавага. Яна — добрая, вясёлая, гаспадарлівая, бязмежна ўтульная і артыстычная. Менавіта так апісваў ідэальную жанчыну Максім Багдановіч, калі Вацлаў Ластоўскі пытаў у яго, з якой бы жанчынай той ажаніўся б. Яна мяне здзіўляе не толькі сваімі кулінарнымі здольнасцямі, але і сваёй выключнай працавітасцю. З аднолькавым творчым імпэтам і прафесіяналізмам яна вядзе перадачы на ТБ, выкладае студэнтам драматургію і журналістыку, піша вершы. Яе верш пра козаў Тархава і пялёсткі Каровіна — адзін з маіх любімых.

**«НН»: Валярына, ці рабіў Васіль якія цікавыя падарункі ці сюрпрызы?**

**ВК:** Увесь час. Пачынаючы ад звычайных прыемных дробязяў: кветкі, рэстарацыі, паходы ў тэатры і музеі — да пярсцёнкаў і нечаканых прызнанняў і прапановаў.

Самы запамінальны падарунак — гэта заручальны пярсцёнак, які ён падарыў мне неўзабаве пасля таго, як зрабіў прапанову. Гэта пярсцёнак прабабулі Васіля Лесі, родавы, палескае золата. Мяне вельмі гэта ўразіла. А вясельны пярсцёнак мы разам выбіралі — у Маскве.

**«НН»: Як была зробленая прапанова рукі і сэрца?**

**ВК:** Прапанова была не адна. Першая — недзе праз тыдзень пасля першага спаткання. Я думала. Але потым вырашыла: чаго думаць, калі сам Космас нам шэпча.

**«НН»: Чаму, Валярына, ты не ўзяла прозвішча мужа?**

**ВК:** Васіль праявіў сваю «дыктатарскую» волю. Ён з ультыматыўнай пяшчотай сказаў: «Куставай ты была — Куставай будзь і надалей здзяйсняйся!»

**«НН»: Ці змянілася ўсведамленне сябе пасля таго, як вы ўзялі шлюб?**

**ВК:** Я стала больш патрабавальнай да сябе — цяпер усё больш хочацца быць лепшай за сябе ранейшую. Прычым гэта распаўсюджваецца на ўсё: працу, побыт, выгляд. І — як ні дзіўна — паэзію. І такое цікавае адчуванне: раней я была шчаслівая сама. А цяпер — жыву жыццём, якое нібыта мяне чакала.

**ВДМ:** Я і не ведаў, якое гэта шчасце хадзіць разам з каханым чалавекам на Камароўскі рынак, які Максім Танк параўноўваў з Манмартрам!

**«НН»: Дзе вы плануеце жыць? Цяпер вы нават у розных краінах знаходзіцеся.**

**ВК:** Пабачым. Але нам абаім важна не губляць сувязь з беларускай культурай. Пакуль што Васіль з'ехаў з Масквы, каб быць разам са мной, у Мінск. Я мінімізавала сваё знаходжанне ў Варшаве, каб быць у Мінску з Васілём. Як ні круці — нас з'ядноўвае Мінск і беларускае каханне. Таму пакуль — у Мінску. Але хочацца і свет спазнаваць. Хачу паказаць Васілю свае ўлюбёныя куткі Еўропы, Азіі і Афрыкі.

**ВДМ:** Жыць плануем у Мінску. Але жыццё нечаканае! Валярына хоча пабываць у Манголіі, я думаю пра Осла альбо Марока. Словам, паглядзім, куды лёс яшчэ закіне! Пакуль што па-новаму адкрываю для сябе Мінск і гатовы да самых нечаканых творчых прапаноў. З Масквы я вярнуўся не толькі з валізкамі, але і з новым прафесійным досведам у галіне дзіцячай тэатральнай педагогікі, стварэння святаў і напісання сцэнароў. Спадзяюся, гэтыя ўменні прыдадуцца і на Радзіме.

**«НН»: Ці склалі вы шлюбную дамову, як многія прагрэсіўныя сем'і? Як вы ўвогуле ставіцеся да такой з'явы, як шлюбная дамова?**

**ВК:** Я прапаноўвала скласці. Але Васіль з яшчэ большай «дыктатарскай» пяшчотай сказаў...

**ВДМ:** ...«Я хачу быць з табой усё жыццё! Вось табе мая шлюбная дамова!»

**Валярына Кустава:** Такая атрымалася шлюбная дамова.

**Гутарыла Вольга Гарапучык**

# Мая Плісецкая

89-гадовая легенда сцэны памерла 2 мая ў Германіі ад сардэчнага прыступу. Пра смерць Плісецкай паведаміў муж балерыны, кампазітар Радзівон Шчадрын.

Плісецкая была прымай Вялікага тэатра даўжэй, чым хто-кольвек — ад 1943 да 1990 года.

Яна нарадзілася ў Маскве ў сям'і савецкага гаспадарчага дзеяча Міхаіла Эмануілавіча Плісецкага і акцёркі нямога кіно Рахілі Міхайлаўны Месэрэр. Дзядзькам Плісецкай быў знакаміты балетмайстар Асаф Месэрэр. Братамі — балетмайстры Аляксандр і Азары Плісецкія. Кузэн — тэатральны мастак Барыс Месэрэр.

У 1938 годзе бацьку Плісецкай расстралялі саветы. Маці выслалі ў Казахстан у Акмалінскі лагер жонак здраднікаў Радзімы. Каб дзяўчынку не забралі ў дзіцячы дом, маленькую Маю ўдачарыла яе цётка па матчынай лініі, балерына, салістка Вялікага тэатра Суламіф Месэрэр.

Плісецкая назаўжды запомніла тыя гады. У 1966 годзе яна была ў ліку 25 дзеячаў культуры, якія не пабаяліся падпісаць калектыўны ліст Брэжневу супраць рэабілітацыі Сталіна.

У 1991 годзе Плісецкая і Шчадрын прынялі грамадзянства Літвы. Аднак жылі яны пераважна ў Германіі.

Цікава, што сваімі каранямі род Плісецкіх паходзіў з Беларусі.

Танчыла яна ўнікальна: у яе была дзіўная пластыка. Яна выдатна адчувала музыку і глыбока пранікала ў вобразы. Яна была духоўна багатым чалавекам.

Муж Плісецкай Радзівон Шчадрын азнаёміў грамадскасць з той часткай іх сумеснага завяшчання, якая тычыцца пахавання. «Целы нашыя пасля смерці спаліць, і калі настане сумная гадзіна сыходу з жыцця таго з нас, хто пражыў даўжэй, або ў выпадку нашай адначасовай смерці, абодва нашы прахі злучыць разам і развеяць над Расіяй».



### Я, Мая Плісецкая (урыўкі з кнігі)

• Дэталь дзедавай кватэры, якая запала ў мой мозг. Вісела ў цёмнавішнёвай драўлянай раме няўмелая копія знакамітай карціны «Князёўна Тараканава». З турэмнага акна хвастала вада, і неспакойныя мышы беглі па ложку, на якім у прыгожай тэатральнай позе, у аксамітнай дэкальтаванай сукенцы стаяла князёўна. Яна была амаль непрытомная, з распушчанымі на плечы валасамі.

У найцяжэйшы для сябе час, калі КГБ дадумаўся запісаць мяне ў англійскія шпіёнкі і аператыўная машына з трыма хлопцамі-малойцамі калясіла за мной па Маскве і стаяла ўначы пад вокнамі — усе дваццаць чатыры гадзіны ў суткі, — я ўспамінала гэтую карціну. Бедную князёўну Тараканаву. У бяссільным адчаі, болі ад абсурду, хлусні, подласці, ідыятызму я хацела станцаваць такі балет. Выліць горыч сваю людзям.

• Сваякамі Госпад мяне не абдзяліў. Мой дзед, маскоўскі зубны лекар Міхаіл Барысавіч Месэрэр, родам быў з Літвы і адукацыю атрымаў ва ўніверсітэце Вільні. У Маскву дзед перабраўся ў 1907 годзе.

• Бабуля мамы, па матчынай лініі Крывіцкая або Кравіцкая, цяпер ужо ніхто не памятае, большую частку жыцця правяла ў паvятовых судах. Яна хадзіла пешшу за дваццаць кіламетраў у горад, каб трапіць на пасяджэнне. Драмы судоў замянялі ёй тэатр. Сямейнае паданне кажа, што яна шкадавала асуджаных, насіла ім ежу, суперажывала, кідаючы асобныя словы з залы. Ёй не пярэчылі.

• Бацька быў выхадцам з ціхага яблыневага, наскрозь прапыленага стэпавага горада Гомеля. Плісецкія бяруць вытокі з тых кранаючых душу нягучнай прыгажосцю краёў беларускіх крыніц. Нарадзіўся ён у самым пачатку стагоддзя — 1901 годзе. А ў васямнаццатым, сямнаццацігадовым падлеткам, «запісаўся ў камуністы», уступіў у партыю. Як і ўсе донкіхоты таго ліхога часу, ён ашалела верыў у кніжную задуму — ашчаслівіць усё чалавецтва. За дзясятак гадоў да перабудовы, якая развязала языкі, я неяк сказала ў запале аднаму старому музыку, які ненавідзеў усё, звязанае са словам «савецкі»: «А мой бацька быў сумленны камуніст...» Якім жа ледзяным шкадаваннем змераў мяне яго доўгі позірк.

За сваю легкавернасць і пражэкцёрства бацька заплаціў спаўна. У 1938 чэкісты расстралялі яго, трыццацісямігадовага, а ў хрушчоўскую «адлігу» пасмяротна рэабілітавалі «за адсутнасцю складу злачынства». Якая банальная пасрэдная гісторыя!..

• ...мы з Шчадрыным перабраліся ў новую кватэру на Кутузаўскі праспект. Кватэра была маленечкая. Два пакойчыкі і кухня. Усяго 28,5 м...

Размясціліся мы ўтрох. Мы з Шчадрыным і хатняя прыслужніца Каця. Кацярына Аляксееўна Жамкова.

Працавала яна ў сям'і Шчадрына раней, калі бацька Радзівона, Канстанцін Міхайлавіч, быў яшчэ жывы. Пасля пасварылася з маці Радзівона, перабралася ў нейкую вайсковую маскоўскую сям'ю.

На другую раніцу нашага новага жыцця, прымудрыўшыся перакуліць на сябе яечню, Шчадрын, у сэрцах, сеў у машыну і пакаціў па Кацярыну. Уварваўшыся ў мірнае сямейства без усякага папярэджання, ён пакідаў няхітры Кацін скарб у чамадан, начапіў на яе паліто і пад крыкі афіцэрскай жонкі, якая гучна заклікала да закона, папёр Кацю да нас на Кутузаўскі.

...Каця спала на кухні каля газавых фаерак, майструючы на ноч сваю пасцель-раскладушку. Раніцай Кацина апачывальня ператваралася ў месца смажання-парання. Надыходзіла ноч — назад у спальню...

Усё маё жыццё пражытае разам з Кацяй.

Родам яна з сяла Успенскае, што пад Арзамасам. Ніжагародская, значыць. Сямнаццацігадовай дзяўчынкай, як пачалася вайна, забралі Кацю на абаронны завод. Патроны рабіць. Пайшлі бамбёжкі. А на заводзе склады порахам начыненыя да краёў. Не дай бог трапіць бомба — усе на паветра ўзляцяць. У самую адчайную бамбёжку мабілізаваныя дзяўчынкі-калгасніцы са страху пазбягалі. Хто куды.

Каця бегала чатыры гады. Але колькі вяровачцы не віцца ... Схапілі Жамкову. Далі ёй пяць гадоў. Год праседзела ў горкаўскай турме (аповед яе — страшны), але амністыя — пасля ваеннай перамогі — выпусціла Кацю раней за тэрмін на волю. Хоць воля — паняцце ў Расіі заўсёды адноснае.

Па падробленай даведцы свата, які працаваў рахункаводам у калгаснай канторы, за літр самагонкі была адпушчаная Каця з калгаса на ўсе чатыры бакі і адправілася ў сталіцу ў хатнія прыслужніцы ўладкоўвацца. Хадзіла па вёсках пагалоска, што саладзейшага за гэтае жыццё нічога на белым свеце няма.

• Усе вольныя вечары бавілі мы ў тым жа доме — на Кутузаўскім: у іншым пад'ездзе пасяліліся Ліля Юр'еўна Брык і яе апошні муж Васіль Абгаравіч Катанян.

У Брык заўсёды было захапляльна цікава. Гэта быў мастацкі салон, якіх у Расіі да рэвалюцыі было нямала. Але бальшавікі, жорсткай расправай з усімі «інтэлігенцкімі штучкамі», павыпраўлялі расейскіх «салоншчыкаў» да продкаў, па турмах ды ў Сібір. Да канца пяцідзясятых, думаю, гэта быў адзіны салон у Маскве.

Ліля Брык — муза і каханая Маякоўскага, вялікага паэта Расіі. Родная сястра Лілі — французская пісьменніца Эльза Трыале. Эльза — жонка Луі Арагона, вялікага паэта Францыі. Удала выбралі сястрыцы жаніхоў!

Ліля сябравала з Пастарнакам, Пабла Нерудам, Шагалам, Фернанам Лежэ, Меерхольдам, Эйзенштэйнам, Хлебнікавым, Назымам Хікметам, Айседорай Дункан. З усімі, хто быў з «левага фронту мастацтваў». Ваяла, здымалася ў кіно. Была палюбоўніцай чэкіста Агранава, намесніка Ягоды. З пісталета Агранава Маякоўскі і застрэліўся. Грамадзянскай жонкай Віталя Прымакова, правадыра чырвонага казацтва, расстралянага Сталіным у 1937 годзе. Сама скончыла жыццё самагубствам. Вакол яе імя накручана процьма чартаўшчыны, асуджэнняў, нянавісці, дакораў, здагадак, плётак, намоў. Гэта была складаная, супярэчлівая, неардынарная асоба. Я не бяруся судзіць яе. У мяне няма на гэта правоў...

Рашэннем самога Сталіна Л. Брык атрымлівала трэцюю частку (маці і сястра іншыя дзве трэціны) спадчыны Маякоўскага. І грошай у яе была процьма. Яна раскідала іх направа і налева. Не лічыла. Калі клікала мяне ў госці, аплачвала таксі. Так з усімі сябрамі.

Абедзенны стол, што ўтульна прыхінуўся да сцяны, на якой адзін да аднаго красаваліся арыгіналы Шагала, Малевіча, Лежэ, Пірасмані, жывапіс самога Маякоўскага, — заўсёды поўны быў страў. Ікра, ласасіна, балык, кумпяк, салёныя грыбы, ледзяная гарэлка, настоеная па вясне на парэчкавых пупышках. А з французскай аказіяй — свежыя вустрыцы, мулі, пахкія сыры...

Але ў адзін цудоўны дзень Ліля зрабілася беднай. Хрушчоў, кіраўнік шалапутны, непрадказальны, без усякага папярэджання загадаў спыніць выплаты спадкаемцам Маякоўскага, Горкага, А.Талстога. Стабільныя на Русі толькі гора ды слёзы. Ліля раптам апынулася на мелі. Стала распрадаваць рэчы. Незласліва падсумоўвала:

— Першую частку жыцця купляем, другую — прадаем...

І нават тады Ліля рабіла царскія падарункі. Менавіта ў свае безграшовыя гады яна падарыла мне дыяментавыя завушніцы, якія і сёння са мной...

• Шчадрын быў адной з прычын, чаму я не засталася на Захадзе.

• Ніякіх прывілеяў ад уладцаў, ні пайкоў, ні дзяржаўных кватэр, дачаў мы НІКОЛІ не мелі. Усё зарабілі сваім потам, сваёй працай.

• Эх, нарадзіцца б мне сёння ў якой-небудзь шчаслівай Ісландыі або штаце Канектыкут. Пачаць усё з нуля. З вольным пашпартам, куды не патрабуецца пакутліва выклянчваць усе на свеце візы, абіваць парогі консульстваў і пасольстваў, натыкацца на сухасць і непрыязнасць пры адным толькі выглядзе расійскага пашпарта. Трывожыцца, што ў пашпарце маім ўсяго некалькі старонак, яшчэ дзве-тры дзяржавы — і скончыўся пашпарт, ідзі, вымольвай новы. Усё прыніжэнні, усё пакуты, усё нерватропка...

І ў Канадзе або ў Люксембургу было б нядрэнна нарадзіцца. Але я нарадзілася ў Маскве. У царстве Сталіна. Затым — пры Хрушчову жыла, пры Брэжневу жыла, пры Андропаву, Чарненку, Гарбачову, Ельцыну жыла... І другі раз нарадзіцца не выйдзе, як ні старайся. Сваё жыві!..

Я і жыла. Сабе кажу — шчыра. Ні дзяцей, ні старых, ні меншых братоў нашых — звяр'ё — не крыўдзіла. Сябрам не здраджвала. Пазыкі вяртала. Дабро памятала і памятаю.

Нікому ніколі не зайздросціла. Сваёй справай жыла. Балетам жыла. Іншага нічога ў жыцці я рабіць толкам і не ўмела.

Мала толькі зрабіла. Куды больш магла. Але і на тым дзякуй. Дзякуй прыродзе сваёй, што вытрывала, не зламалася, не здалася...

# Аляксандр Міцкевіч



Сумная вестка прыйшла з Нью-Ёрка. 28 красавіка памёр пляменнік Якуба Коласа грамадскі дзеяч Аляксандр Міцкевіч.

Аляксандр Міцкевіч нарадзіўся ў вёсцы Мікалаеўшчына ў сям'і Міхаліны Міцкевіч, сястры Якуба Коласа, у 1919.

Напярэдадні Другой сусветнай вайны скончыў настаўніцкія курсы і працаваў настаўнікам у Жыгалкаўскай вясковай школе. У 1944 годзе выехаў на эміграцыю: Аўстрыя — Францыя — Бельгія. Спрабаваў вучыцца на філасофскім аддзяленні Лювенскага ўніверсітэта, але не скончыў яго.

У 1955, атрымаўшы запрашэнне ад дзядзькі — Міхася Міцкевіча (брата Якуба Коласа), — перабраўся ў ЗША. Жыў у Нью-Ёрку.

Быў сябрам Беларуска-Амерыканскага задзіночання, уваходзіў у Галоўную ўправу арганізацыі, кіраўніцтва Нью-Ёркскага аддзела. Ад 1965 быў сябрам рэдкалегіі ды распаўсюднікам газеты «Беларус».

У 1980—1990-х выдаваў бюлетэнь «Весткі й паведамленьні Нью-Ёрскага аддзелу БАЗА». Радны БНР.

**Алег Гардзіенка**

# Алег Грамыка



Яму было 69 гадоў. Алег Грамыка заснаваў партыю «Зялёныя», пасля таго як яго асабіста накрыла чарнобыльская хмара. Яго сям'я жыла недалёка ад Чарнобыля, у Брагінскім раёне, і дзве сястры з братам памерлі ад анкалагічных хвароб. Гэта падштурхнула яго, настаўніка геаграфіі, у палітыку.

На свабодных выбарах гамельчукі абіралі яго дэпутатам Гомельскага абласнога і гарадскога саветаў.

Ён доўгі час быў адзіным лідарам партыі, які жыў не ў Мінску, а ў Гомелі. Партыя зялёных была невялічкай, але была — і гэта прыцягвала ўвагу да праблем аховы прыроды.

Алег Грамыка ў 1973 годзе скончыў Магілёўскі педінстытут — у адзін час з Аляксандрам Лукашэнкам, нават гуляў у адной гандбольнай камандзе з ім. Гэта былі людзі аднаго пакалення, але розных вартасцей.

Па спадару Грамыку засталіся жонка, дарослы сын і двое ўнучкаў. І справядлівыя справы.

**Сяргей Гезгала**

Піша **Сяргей Ваганаў**.

# Пятае раненне

Здарылася гэта ў 1984 годзе, у сонечны вераснёўскі дзень, калі ў Чэрвень прывезлі свежую рыбу. Падзея не тое каб вельмі значная, але набыла маштаб: навіна хутка абляцела гарадок, і не паспела яшчэ Марыя, прадаўшчыца крамы мясцовага леспрамгаса, прыняць тавар, у двары выстраілася вялікая, з некалькіх дзясяткаў чалавек, чарга.

Гандаль ужо разгарнуўся на ўсю моц, калі ў двары з'явіўся грузны мужчына ў мехаватым шэрым гарнітуры і паволна рушыў уздоўж чаргі да спехам збудаванага прылаўка. Дыханне з цяжкім свістам вырывалася з яго грудзей, ён час ад часу спыняўся, падносячы да рота аптэчны пузырок. І раптам захлынуўся кашалем, сутаргава затрос галавой: гэта ж трэба, хаця і закрывае трахею марлевай павязкай, глынуў усё ж пылу...

Ён ужо пашкадаваў, што рушыў у такі цяжкі для сябе шлях. Каб не падвёз на машыне сусед, наўрад ці адважыўся б. Ды вось захацелася зрабіць прыемнае матулі: куды ёй на дзясятым дзясятку самой па крамах бадзяцца! Што праўда, нічога ёй не сказаў, бо не пусціла б. Дарэмна ўсё ж адмовілася яна ў Мінск перабрацца, куды меней было б праблем. Унь, дзяўчаты з гастранома проста ў хату прадукты носяць, дактары без выкліку прыязджаюць, лецішча за горадам, на свежым паветры — сам урад распарадзіўся — бясплатна збудавана... А які чулы чалавек Станіслаў Антонавіч Пілатовіч! І не адмаўлялася быццам Міністэрства сацыяльнага забеспячэння «запарожац» выдзеліць, ды не здолела, інструкцыя забараняла, бо дачка, што мусіла кіраваць, асобна жыве. Але нічога, дапамог намеснік старшыні Саўміна, так і напісаў міністру: «Улічваючы асаблівыя заслугі перад Радзімай і атрыманыя 4 цяжкія раненні, вырашыць пытанне станоўча». Значыць, і машына свая вось-вось з'явіцца, лягчэй будзе матулю наведваць. Хаця ўсё ж побач з роднымі ёй больш надзейна было б. Дык не, адмовілася, ад магіл бацькі і малодшага сына, гаворыць, нікуды не з'еду...

Мужчына адкашляўся і, цягнучы нагу — ізноў заныў засеўшы ў ёй асколак, ды і дыхаць пасля прыступу, як заўсёды, цяжэй, — працягнуў свой шлях яшчэ колькі метраў.

За прылаўкам панавала звычайная гандлёвая мітусня: бразгалі шалі, плюхалася ў авоські рыба. Марыя ледзь паспявала паварочвацца, зважаючы на чаргу, што нястрымна расла, і час, які застаўся да закрыцця крамы. Ад запіскі, аднак, не адмахнулася, прачытала «я інвалід першай групы, прашу...», хутка ўзважыла некалькі рыбін, не звяртаючы ўвагі на замяшанне, што ўзнікла ў чарзе. Між тым, яно нарастала. Пачулася лаянка, мужчына затросся ўсім целам, замахаў рукамі, твар пабарвавеў, на ім адлюстраваліся крыўда і неразуменне. Мільгацеў заціснуты ў руцэ пузырок, другая ніяк не трапляла ў кішэню, дзе хавалася пасведчанне інваліда, з горла вырываўся свісцячы хрып... О, каб яно ў яго было, горла, каб яно магло дапамагчы яму вымавіць хаця б адно патрэбнае слова, патлумачыць, прысароміць жанчын, што расшумеліся ажно на ўвесь двор: «...не пушчайце яго... хай праз пяць чалавек становіцца... ведаем мы гэтых інвалідаў...» Хаця б адну прысароміць, тую, што, не выбіраючы выразаў, напірала моцным плячом... Шукаючы заступніцтва, ён паглядзеў на прадаўшчыцу, тая моўчкі працягнула яму праз галовы торбу з рыбай, ён узяў яе і зноў пайшоў уздоўж чаргі, спяшаючыся, як на тое быў здольны, пакінуць двор, забыцца на ўсё, што адбылося, не думаць, што ж сталася з гэтымі людзьмі. Душыла крыўда, і ён не заўважыў, хто з чаргі тузануў яго за рукаво. Тканіна затрашчала, ён спыніўся ў непаразуменні і паспеў убачыць, як ад скрыняў, што былі складзены наводдаль, кінулася да яго чыясьці постаць. І ў наступны момант цяжкі ўдар абрынуўся на твар...

Чарга ахнула, нібыта толькі цяпер убачыла ў чалавеку, што ляжаў на зямлі, абсалютную бездапаможнасць. Нехта выгукнуў «за што?!», нехта кінуўся дапамагаць яму падняцца на ногі, гэта было цяжка, таму што цяжкі быў ён сам, а ногі, што былі перабіты ў балотах пад Ленінградам, а потым з неверагодным мастацтвам пасшываны ў тылавых шпіталях, так, што ён здолеў вярнуцца на фронт, адмаўляліся слухацца. З рота струменіла кроў, а ў галаве нарастаў бясконцы гул, быццам ізноў узарвалася тая міна, ударыла гарачай хваляй, сыпанула мерзлымі камякамі, паласнула асколкам...

Але тады, у 43-м, ён падняўся.

У мяне захаваўся ўрывак з баявой характарыстыкі капітана Паўловіча Анатоля Рыгоравіча. Дасюль памятаю акуратна пападклейваную на згібах махорачнага колеру паперку, размыты месцамі подпіс — падпалкоўнік Падлесны, 13 лютага 1943 года, дзейнае войска: «...Батальёну, якім ён камандаваў, было даручана штурмам узяць ст. Падгорнае... праціўнік засеў на дзвюх вышынях, фланкіруючым агнём з кулямётаў і моцным арт. і мін. агнём прыціснуў батальён да зямлі. Тады тав. Паўловіч, рызыкуючы жыццём, асабістым прыкладам узняў батальён у атаку, у рукапашным баі ўзяў вышыні, праследуючы немцаў, уварваўся з батальёнам на ст. Падгорнае, заняў яе і ўзяў трафеі: паравозаў — 2, вагонаў — 34, склад боепрыпасаў — 1, кулямётаў — 7, СТА — 1. У гэтым баі немцы страцілі забітымі каля 230 салдатаў і афіцэраў... Выбыў з часці па цяжкім раненні і агульнай кантузіі».

Гэта было апошняе, чацвёртае раненне камбата.

Аказалася — не апошняе.

Ударыў Крыцкі (*прозвішча зменена* — **С.В.**), трактарыст райсельгасхіміі, 27 гадоў. Ударыў і адразу знік са двара.

Знайшлі яго хутка, на наступны дзень. Разам з Паўловічам ён ехаў у адной міліцэйскай машыне, прасіў прабачыць яго, паўтараючы, што ўдарыў выпадкова, бо не бачыў, каго б'е. Цяпер жа, калі ўбачыў, ім авалодаў страх, у нейкім завуголлі свядомасці з'явілася і не сыходзіла думка, што ўдар мог стацца смяротным...

Паўловіч зноў замахаў рукамі, у машыне было цесна, участковы міліцыянер супакойваў яго, сцвярджаў, што хуліган абавязкова будзе пакараны. Тое самае паўтарыў Апанасевіч, следчы з раённай міліцыі. Паўловіч супакойваўся, паважліва гледзячы на зоркі старшага лейтэнанта...

І сапраўды, справа была заведзена хутка, праз тыдзень. І адразу пацягнуўся ланцуг сведак — гарадок невялікі, чарга лёгка пазнавала сябе. І яшчэ праз тыдзень Апанасевіч выклікаў Паўловіча на допыт «у якасці пацярпеўшага». Верагодна, мог і сам да яго прыехаць, ведаў жа, як цяжка інваліду дабрацца да Чэрвеня. Усё ж ён дабраўся, на пытанні адказваў запіскамі, потым, прачытаўшы паказанні сведак, расхваляваўся — яны былі насычаны падрабязнасцямі, якіх і заваду не было. На вочы трапіла даведка з медвыцвярэзніка, з якой вынікала, што Крыцкі часты яго наведнік. І побач — характарыстыка з месца працы: выканаўчы, працалюбівы, перавыконвае нормы... Паўловіч задыхнуўся ад абурэння. Не трэба, зноў супакоіў Апанасевіч, не хвалюйцеся, я сам дам ім дыхту, вяртайцеся ў Мінск дахаты, чакайце запрашэння ў суд...

Да суда справа не дайшла. У сярэдзіне кастрычніка Апанасевіч атрымаў дазвол працягнуць тэрмін дазнання яшчэ на месяц. А яшчэ праз два тыдні з-пад пяра следчага выйшла пастанова — справу спыніць.

Вось яна, тая пастанова: «...стаў распіхваць чаргу. Калі Паўловічу зрабілі заўвагу, то ён хапаў гіры са стала, адкуль адпускалася рыба, размахваў гірамі. Крыцкі, які знаходзіўся ў чарзе, зрабіў Паўловічу заўвагу з нагоды яго хуліганскіх дзеянняў, але Паўловіч на заўвагу не зрэагаваў, а схапіў гіру, штурхнуў Крыцкага ў грудзі і намагаўся ўдарыць апошняга. Крыцкі, абараняючыся ад Паўловіча, нанёс яму ўдар па твары, і ад удару Паўловіч упаў... Прымаючы да ўвагі, што ў дзеяннях Крыцкага адсутнічае склад злачынства, што прадугледжана артыкулам 201 частка 2 КК БССР, ён спыняў злачынныя дзеянні Паўловіча...»

Спрэс хлусня — ад «заўваг», што насамрэч былі грубай лаянкай, да «гіры», у якую ператвараўся аптэчны пузырок; ад «распіхвання чаргі» да «намагання ўдарыць Крыцкага», якога нават у чарзе не было...

Нічога гэтага Паўловіч не ведаў. Стаміўшыся чакаць суда і адказу на пяць сваіх лістоў да начальніка РАУС падпалкоўніка Зіміна, ён не вытрымаў, паехаў да яго. Той нават не хаваў вочы, калі ўпэўніваў Паўловіча, што не атрымліваў тых лістоў, што адказ хутка прыйдзе. І маўчаў, хаця ведаў, што вось ужо месяц як справа спынена. Адказ прыйшоў ажно 9 снежня: «віна грна Крыцкага не пацвердзілася...»

Зразумеўшы, што Зімін яму не абаронца, Паўловіч прысунуў да сябе старэнькі «Рэйнметал» — адзіны свой ваенны трафей. Да таго моманту пішучая машынка служыла яму толькі дзеля таго, каб дзякаваць усім, хто быў да яго ўважлівы. Іншым спосабам, пісьмовым, ён рабіць гэта не ўмеў — любая літара з'яўлялася з-пад рукі падобнай на іерогліф. Цяпер жа з адзінага, па сутнасці, сродку сувязі са знешнім светам, якому, ён быў упэўнены, патрэбна ягоная ўдзячнасць за ўвагу, дабрыню і спагадлівасць, машынка ператваралася ў сродак абароны.

Дзіўна, як старэнькі «Рэйнметал» вытрымліваў незлічоную колькасць лістоў і тэлефонных размоў — так, Паўловіч друкаваў тэксты, якія ад яго імя зачытвалі па тэлефоне жонка, дачка, суседзі. Усё гэта чыталі і слухалі ў кабінетах МУС і пракуратуры рэспублікі, абласной міліцыі і пракуратуры... Але спярша ён аддрукаваў ліст Апанасевічу: «...дзе ваша сумленне, старшы лейтэнант?!»

Яшчэ ці не са два месяцы раскручваўся здзек — справа то ўзнаўлялася, то ізноў спынялася, то ператваралася з крымінальнай у адміністрацыйную... Не так, дык гэтак Апанасевіч намагаўся выратаваць Крыцкага ад законнага пакарання. Але ўрэшце пад ціскам вышэйшай пракуратуры прыцягнуў хулігана да крымінальнай адказнасці...

Калі я разбіраўся ў гэтай гісторыі, самым складаным было зразумець, чым кіраваліся следчы Апанасевіч і ягоны начальнік Зімін, на што разлічвалі, адкрыта хлусячы Паўловічу і дзяржаве, увасобленай у «органах». Магчыма, справа Крыцкага падалася ім з ліку тых, якія было лёгка спыніць, каб не псаваць агульную карціну злачыннасці ў раёне — не стане ж пацярпелы з-за разбітай губы і выбітага зуба — лёгкіх, так бы мовіць, цялесных пашкоджанняў — уцягваць ў доўгую, цяжкую для сябе каніцель. Але гэта зразумелае, на паверхні, тлумачэнне. Іншы, прыхаваны матыў — небеспадстаўны разлік на тое, што дзяржава зразумее іх разлік, пагодзіцца, падтрымае, што дзяржаўная машына, прынцыпова скіраваная супраць асобы, спрацуе без тармазоў. Паўловіч, па сутнасці, змагаўся не з Апанасевічам, а з дзяржавай, з хлуснёй, без якой яна не здольная была існаваць.

Са змяшаным пачуццём сораму, горычы і душэўнага хвалявання ехаў я ў Чэрвень на суд. Як жа гэта блізка — шэсцьдзясят кіламетраў па асфальце! Сыпалася на лабавое шкло шэрань з бяроз, глядзела на захад палявая гармата з пастамента на скрыжаванні дарог... Я ўспомніў аповед матулі, як 24 чэрвеня 1941 года яна, цяжарная мной, дабралася пешшу да Чэрвеня, да плошчы, дзе ў адзіны адчынены магазін ужо цягнулася вялізная чарга па хлеб, апошні, мірнай выпечкі, хлеб. Як адхлынула чарга, адхіснулася, прапусціла ўперад бежанцаў, і сястру маю, і маці, і мяне, значыць — бярыце, якія грошы, хапіла б яго вам на ўвесь шлях у невядомасць... Не, немагчыма забыцца на чэрвеньскі хлеб 1941 года...

Паўловіч прыехаў на суд у ордэнах і медалях, суддзя дазволіў яму сядзець, але ён устаў. Побач, прытрымліваючы яго, уставала, каб за яго адказаць на пытанні, жонка Кацярына Дзмітрыеўна. Каця, медсястра, сястрычка, ён удзячна сціскаў яе руку, як тады, у 43-м, у шпіталі, калі яна, схіліўшыся, працягнула сваю. На ўсё жыццё.

Адзін за адным праходзілі перад судом сведкі. Устала Людміла Р., выхавацелька з дзіцячага садка, год нараджэння — 1945. Без асаблівага жадання распісалася ў знак таго, што будзе гаварыць толькі праўду. «Паўтарыце, сведка, словы, якія вы гаварылі пацярпеламу». Маўчанне. «Вы не можаце?» — «А што, у яго ёсць права, а ў мяне няма?!» — сіплаваты голас сарваўся на віск. Выклікалі яе дачку Таццяну, навучэнку ПТУ — моднае паліто, імпартныя боты. «Няўжо вы не бачылі, што перад вамі інвалід першай групы?» — «А хаця і дзясятай, нехай не лезе без чаргі!»... — «Вы, — не вытрымаў суддзя, — вы... камсамолка...»

Суд дапытваў іх, высвятляў падрабязнасці, яны блыталіся, хлусілі, хлусня выпірала адразу ж, а я ўсё чакаў, калі ж хоць каго б з іх кальне сорам, калі ж, нарэшце, загалосіць сумленне: ды што гэта мы, людзі добрыя, утварылі і працягваем тварыць!

У характарыстыцы злачынства, у прыватных вызначэннях на адрас арганізацый, дзе працавалі ці вучыліся сведкі, суд пазначыў — «праявілі яўную непавагу да грамадства». А хто ж яны як не грамадства, выхаванае крывадушнасцю дзяржаўнай ідэалогіі, створаннем вялізнай, на ўвесь СССР, чаргі? Яны сапраўды лічылі, што, заняўшы кругавую абарону вакол прылаўка, дзейнічаюць у імя справядлівых, камуністычных прынцыпаў размеркавання.

«Вы... — чырванеў тварам суддзя, — камсамолка... Ён крывёю заслужыў сабе гэтае права...»

Я паглядзеў на Паўловіча. Ён ліхаманкава шукаў руку жонкі, імкнуўся ўстаць, нешта ізноў булькацела ў горле... Што ён хацеў сказаць? Што некалькі рыбін не каштуюць і кроплі ягонай крыві? Жонка супакойвала, гладзіла па спіне... Ён прытуліўся да яе, але бачна было, як перарывіста ўздрыгваюць плечы.

Увесь дзень 27 студзеня Паўловіч прасядзеў ля тэлевізара — адзначалася 40-я гадавіна поўнага вызвалення Ленінграда ад блакады. Сышло, адсунулася ўсё, што здарылася з ім у Чэрвені, ён ізноў быў там, у заснежаных балотах, ізноў быў камбатам, што ўстаў пад агнём...

А ўвечары ў кватэры прагучаў званок. Ён адчыніў дзверы, убачыў на парозе Анатоля Яўрэінава, начальніка цэха з завода «Беллічтэхніка», з ім яшчэ некалькі чалавек. Кагосьці ён пазнаў адразу, яны не аднойчы наведвалі яго, чысцілі, рэгулявалі ягоны старэнькі «Рэйнметал». Але ўрэшце машынка не вытрымала апошняга змагання Паўловіча за справядлівасць. Яму дапамаглі дабрацца да завода, майстра, агледзеўшы яе, папрасіў пачакаць і хутка вярнуўся з Яўрэінавым: «Мо падкажаш, што з ёй рабіць?» Насамрэч рабіць з ёй не было ўжо чаго — запчастак з таго свету завод не атрымліваў. Але Анатоль ужо глядзеў не на машынку, ён глядзеў на Паўловіча: «Пакіньце, што-небудзь прыдумаем...»

І вось цяпер яны стаялі на парозе, пераступалі з нагі на нагу, падавалі букет чырвоных гваздзікоў... Ён замітусіўся, прапускаючы іх у пакой, яны сумеліся, пераглянуліся, і Яўрэінаў, падышоўшы да стала, паставіў на яго нейкі чамадан, адкінуў вечка. «Вось, Анатоль Рыгоравіч, гэта вам ад хлапцоў, яны спецыяльны суботнік адпрацавалі...»

Гэта была навенькая, з іголачкі, «Эрыка». Паўловіч, нічога не разумеючы, паглядзеў на машынку, потым на хлапцоў і раптам заплакаў, закрыўшы твар вялікімі рукамі...

Калі яны пайшлі, ён вярнуўся да стала, яшчэ раз прачытаў: «Удзельніку прарыву блакады Ленінграда таварышу Паўловічу А.Р. ад моладзі аб'яднання «Беллічтэхніка». 21.1.84 г.». Побач стаяў «Рэйнметал», ён пагладзіў па яго паверхні, што цьмяна паблісквала, і рашуча адставіў убок. Прысунуў «Эрыку», уставіў у яе чысты ліст паперы і павольна, па літарах, аддрукаваў: «Беспрыкладны подзвіг ленінградцаў».

Ён друкаваў усю ноч. І скончыў уранку словамі: «Няхай вашы дзеці, унукі і праўнукі жывуць у шчасці»...




На пляцоўцы перад гатэлем «Еўропа» ў Мінску карэспандэнт «НН» 2 мая заўважыў «калону» элітных спорткараў з расійскімі нумарамі. Відаць, аматары хуткіх і дарагіх аўто заехалі адпачыць у беларускую сталіцу на традыцыйна доўгія ў Расіі майскія святы. Сярод прыпаркаваных аўто было два Mercedes SL, Ferrari і Chevrolet. Кошт кожнай машыны — больш за $100 тысяч.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

1 мая на станцыі турызму ў Жодзіне прайшла першая ў Беларусі гонка экстрэмальнага бегу з перашкодамі. Больш за 500 удзельнікаў з Беларусі, Расіі і Украіны мусілі пераадолець пяцікіламетровы маршрут. Іх чакаў 21 этап з разнастайнымі перашкодамі: калючы дрот і канавы, пераход ракі бродам і на плытах, перанос бярвёнаў і камянёў.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Стылягі, сувораўцы і аркестр: у Мінску з помпай адкрылі сезон фантанаў. Паглядзець на запуск найвялікшага фантана ў Мінску — «чашы» каля Опернага тэатра, прыйшло каля трохсот мінчукоў.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

У Мінску прайшоў III Форум вулічных тэатраў, у якім удзельнічала больш за 200 прадстаўнікоў з розных краін. Колькасць удзельнікаў форуму, у параўнанні з мінулым годам, вырасла ўдвая. Па сваім фармаце мінскі форум блізкі да традыцый еўрапейскіх вулічных тэатральных фэстаў.



## Анекдоты і жарты

* * *

У пачатку мая швейцарскія аўтамабілісты размяшчаюць на сваіх машынах налепкі «Дзякуй, дзед, за нейтралітэт».

* * *

У краме пры продажы алкаголю:

— 18 гадоў ёсць?

— Так.

— Што такое пэйджар?

— Прылада для прыёму тэкставых паведамленняў.

— Ок.

* * *

– Калі будуць праблемы, у цябе ж мой нумар тэлефона ёсць?

– Ёсць!

– Выдалі.

* * *

– Цэлыя тры месяцы ты не можаш вырашыць, якую купіць машыну, а мне зрабіў прапанову на трэці дзень нашага знаёмства.

– Купля машыны — справа сур'ёзная.

* * *

На вуліцы такое цудоўнае надвор'е, нават паныць няма пра што. А я люблю ныць! Гэтае надвор'е ўсё сапсавала...

* * *

Калі ў мужчыны пазногці на нагах пафарбаваныя лакам, гэта зусім не азначае, што ён трансвестыт. Хутчэй за ўсё, у яго проста падрастае маленькая дачка.

* * *

У Савецкім Саюзе пультам ад тэлевізара быў самы малодшы ў сям'і.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Вайна з мядзведзем.** 20 красавіка з недалёкага лесу прыплёўся ў вёску Каўняцін Пінскага павета мядзведзь. Жыхары перапужаліся. Пачалася ў вёсцы аблага на гэтага няпрошанага госця. Мядзведзь накінуўся на страляючых і ёмка іх пакусаў. Пасля доўгай барацьбы атрымалася загнаць мядзведзя ў хату аднаго селяніна, дзе і «даканчылі» ворага. Мядзведзь быў якабы шалёны, дык пакусаных ваякаў адправілі ў Мінск у стасоўную бальніцу.

**«НН». №17. 1915.**

**Пакрадзенае свята.** «Савецкія войскі ўратавалі нас ад вынішчэння, але прынеслі нам несвабоду», — такая ацэнка 1945 года здаецца справядлівай Войцеху Ярузэльскаму. «Савецкае войска вызваліла Эстонію ад нацысцкай акупацыі, але пачалася новая акупацыя, наступствы якой — трагічныя для эстонскага народа», — кажа іншы ветэран, прэзідэнт Эстоніі Арнольд Руйтэльэ, 60-годдзе Перамогі — нагода для ўзірання ў гісторыю.

**«НН». №17. 2005.**


# Наша Ніва

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Таццяна Кур'ян
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара — Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**




8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 7001. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 05.05.2015.
Замова №1841.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614

